ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 47 (2397) 24 лістапада 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 40 рублёў.

## ЗРАЗУМЕЙЦЕ ПРЭЗІДЭНТА



**15 лістапада Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прымаў ва ўласныя рукі вярыцельныя граматы ад новага пасла ЗША ў нашай дзяржаве Кенэта Спенсэра Яловіца. Галоўная думка, якую ён хацеў давесці паслу ў выступленні з гэтай нагоды, -- правільна зразумець глыбіню адносінаў Беларусі з Расіяй.**

**Пасла наўрад ці здзівіла гэта заява. Затое наш Прэзідэнт быў уражаны тым, на якой добрай беларускай мове пачаў прамову К.С. Яловіц.**

## ПРА ГЭТА НАЎРАД ЦІ ХТО ВЕДАЕ

# ПАЎСТАННЕ Ў ЛАГЕРЫ

Як вядома, ахвярамі сталінскіх рэпрэсій сталіся самыя розныя сацыяльныя групы насельніцтва -- ад радавых рабочых і сялян да кіраўнікоў вышэйшых эшалонаў улады і кіравання. Знішчаліся ў першую чаргу тыя, хто выступаў супраць існуючага палітычнага рэжыму. Аднак у большасці выпадкаў пад кола рэпрэсій траплялі тыя людзі, якія былі да канцы аддадзеныя савецкай уладзе і безагаворачна падтрымлівалі праводзімы ёю палітычны курс. Хаця былі і тыя, хто з часам зразумеў сапраўдную сутнасць таталітарнага рэжыму. Да такіх людзей з упэўненасцю можна аднесці наркома асветы Беларусі Уладзіміра Піваварава.

**"Піваварaў Уладзімір Іванавіч (1904--1941), нарком асветы БССР. Нарадзіўся ў 1904 годзе ў вёсцы Сенінаўка Рагачоўскага раёна. Член КПСС з 1931 года. У 1924 годзе пасля заканчэння Рагачоўскага педагагічнага тэхнікума працаваў настаўнікам, дырэктарам сямігадовай школы ў Мазырскім раёне. У 1930 годзе скончыў фізіка-матэматычны факультэт БДУ. У 1930--1932 гадах -- аспірант АН БССР. У 1935 годзе скончыў аспірантуру пры АН СССР. Абараніў кандыдацкую дысертацыю па раздзелу "геафізіка". У наступныя гады працаваў старшым навуковым супрацоўнікам фізіка-тэхнічнага інстытута АН БССР. З 29 кастрычніка 1937 года -- нарком асветы БССР. 2 ліпеня 1937 года арыштаваны. 28 студзеня 1940 года выключаны з членаў КП(б)Б. Рашэннем Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР ад 29 мая 1940 года асуджаны на 15 год папраўча-працоўных работ. Памёр 28 жніўня 1941 года. Рэабілітаваны 25 снежня 1954 года".**

**(З гісторыка-дакументальнай хронікі "Памяць. Рагачоўскі раён". Мінск: Беларуская энцыклапедыя, 1994).**

Акрамя гэтых скупых біяграфічных даных і пісьма жонкі У.Піваварава Яўгеніі Іванаўны, апублікаванага ў "ЛіМ"е 7 верасня 1990 года, дзе яна расказала аб апошняй сустрэчы з мужам у мінскай унутранай турме НКУС у красавіку 1940 года, мы сёння практычна больш нічога не ведаем аб трагічным лёсе нашага славутага земляка...

Хаця з пачатку 1938 года палітычныя рэпрэсіі ў рэспубліцы як быццам пайшлі на спад, тым не менш у сярэдзіне 1938 года органы НКУС пачалі раскручванне чарговай "справы" -- цяпер ужо "адказных работнікаў Беларусі". Па сфабрыкаваных у нетрах НКУС СССР і БССР пад кіраўніцтвам Цанавы, які змяніў Наседкіна на пасадзе наркома НКУС БССР, абвінавачваннях у контррэвалюцыйнай дзейнасці, прыналежнасці да праватрацкісцкай і нацфашысцкай арганізацый былі арыштаваны былы старшыня ЦВК БССР М.Стакун, былы сакратар ЦК КП(б)Б У.Патапейка, намеснікі старшыні СНК рэспублікі, шэраг наркомаў (у тым ліку і У.Піваварaў), дырэктараў прадпрыемстваў.

У Беларусі з улікам сфабрыкаванай у нетрах НКУС і прынятай па інфармацыях з "цэнтра" версіі аб нібыта існуючым разгалінаваным антысавецкім падполлі, што ўзначальваецца партыйнымі і савецкімі кіраўнікамі, удар у першую чаргу наносіўся па партыйных, савецкіх і гаспадарчых кадрах, навуковай і творчай інтэлігенцыі.

У даведцы Упраўлення дзяржаўнай бяспекі НКУС БССР аб выніках разгрому антысавецкага падполля ў БССР, падпісанай начальнікам 4-га аддзела, значылася, што "значная колькасць яго ўдзельнікаў (2 570), арыштаваных у другой палове 1937 -- першай палове 1938 года, працавала ў ЦК КП(б)Б, ЦВК БССР, Саўнаркоме, наркаматах, АН БССР, ВНУ, пісьменніцкай арганізацыі".

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ЁН ЛЮБІЎ МАЛЯВАЦЬ КОНЕЙ...

Імя Канстанціна Мікалаевіча Геда (1891--1977), жывапісца, графіка, вучня славутых мастакоў А. Архіпава, К. Каровіна, колішняга сябра У. Маякоўскага, мала каму вядомае цяпер у Беларусі. Між тым жыццёвы шлях, творчасць К. Геда, відавочна, заслугоўваюць увагі. Паколькі гэты чалавек доўгі час жыў і працаваў у Беларусі, то павінны быць людзі, якія ведалі Канстанціна Геда асабіста, сустракаліся, супрацоўнічалі з ім. Аўтар артыкула, рэдакцыя газеты "Голас Радзімы" просяць адгукнуцца ветэранаў Саюза мастакоў Беларусі, усіх, хто так ці інакш сутыкаўся, а можа і меў агульныя справы з К. Геда...

Канстанцін Геда нарадзіўся 6 снежня 1891 года ў Вільні. Бацька будучага мастака -- міравы суддзя пераехаў туды з Пецярбурга. Родам Мікалай Геда быў з Жыздры, адкуль ведаў рускага пісьменніка Льва Талстога.

Род Геда вельмі старажытнага паходжання. Продкі будучага мастака былі шведамі, прыкладна ў 20-х гадах XIX стагоддзя пераехалі ў Санкт-Пецярбург. Шведскі род Геда (з рускай галіны якога паходзіў Канстанцін Геда) даў свету шмат таленавітых асоб. Шведскі спявак Мікалай Геда -- адзін з прадстаўнікоў знакамітага роду.

Дзяцінства Канстанціна Геда прайшло ў невялікім рускім гарадку Жыздра, а рэальнае вучылішча хлопчык скончыў ужо ў беларускім Магілёве. Захапляўся маляваннем з самага ранняга ўзросту: трохгадовы К. Геда мог некалькі гадзін прасядзець у сваім маленькім дзіцячым ложку з паперай і алоўкам. Улюбёнай тэмай творчасці пачынаючага мастака сталіся... коні. Не здраджваў прызванню ён і пазней, малюючы ў асноўным коней або коннікаў.

Яшчэ падчас навучання ў Магілёўскім рэальным вучылішчы настаўнікі К. Геда заўважылі схільнасць хлопца да малявання, незвычайныя творчыя здольнасці сына суддзі. К. Геда пачаў браць прыватныя ўрокі малявання. Потым перабраўся ў Санкт-Пецярбург; у 1910--1912 гадах вучыўся там у прыватнай студыі Берэнштэйна. У 1912-м пасяліўся ў Маскве. Паступіў у Маскоўскае вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства, займаўся па класу жывапісу.

(Заканчэнне на 6-й стар.).




**Божухна! Як змяніўся стыль нашага жыцця!**

**Даўней не паспееш прачнуцца, а твой непазбежны спадарожнік -- радыё ўжо настройвае на працоўную вахту: "Трудовые будни -- праздники для нас". Сёння ж табе, яшчэ паўсоннаму, яно ўводзіць у вушы, дзе, у якім банку выгадней купіць ці прадаць долары і маркі. І дзелавы народ спяшаецца заняць чэргі ля банкаўскіх офісаў, каб на аперацыі купля-продаж зрабіць нейкі навар.**

**Так, банкі ўсё больш упэўнена і арганічна ўваходзяць у наша жыццё. У эпоху недаразвітага сацыялізму мы пыхліва называлі Беларусь краінай вежавых кранаў, якая няспынна будавала жылыя масівы. Сёння для ўзвядзення банкаўскіх будынкаў такія махіны не патрэбны. Мы яшчэ не дапялі да ўол-стрытаўскіх "хмарачосаў", дзе звычайна месцяцца амерыканскія фінансісты. Беларускія банкі пакуль што маюць сціплыя прэтэнзіі -- на два-тры паверхі, не болей. Але ў іх знешнім выглядзе ўжо ёсць нешта ад Еўропы, адным словам, яны цешаць вока беларускага правінцыяла.**

**Ну а размах банкаўскага будаўніцтва не можа не ўражваць. Толькі Мінскаму гарвыканкому даводзіцца нярэдка разглядаць доўгі спіс заяў аб выдзяленні зямельных участкаў для камерцыйных банкаў і іх розных філіялаў.**

**Як кажуць, дай Бог спору. Толькі каб было наша жыццё ад гэтага хоць крышачку лягчэйшым!**

**Ян ГІЛУЦЁВІЧ.**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## КАЛІ ПРЭЗІДЭНТУ ЦЯЖКА

-- Калі мне асабліва цяжка, я стараюся сустрэцца з простымі людзьмі, -- прызнаўся Аляксандр Лукашэнка, уручаючы ўзнагароды групе работнікаў Мінскага аўтамабільнага завода. -- Вы ведаеце, што цяпер час нялёгкі і для мяне, і для вас. І самае складанае -- гэта не павышэнне цэн. Мой галоўны боль -- як перазімаваць, каб не здарылася сітуацыя, што была ў Прыбалтыцы, калі дэпутаты парламента на пленарных пасяджэннях хуталіся ў цёплыя паліто.

Нават у такі ўрачысты дзень Аляксандр Лукашэнка не змог абысці праблемы, якія хвалююць і яго самога, і яго выбаршчыкаў. Ён прызнаўся: усё, што адбываецца ў рэспубліцы, не так адназначна і проста, як можа здацца на першы погляд.

-- Сёння няма, бадай, ні адной палітычнай партыі, ні аднаго палітычнага лідэра, цяперашняга або былога, якія працавалі б са мной у адной звязцы, -- заявіў кіраўнік рэспублікі. -- Спачатку яны былі аглушаны вынікамі прэзідэнцкіх выбараў, а цяпер паднялі галаву, раз'язджаюць па гарадах і вёсках і на ўсе лады лаюць "новую каманду", якая прыйшла да ўлады.

Аляксандр Лукашэнка лічыць, што палітычныя сілы рэспублікі цяпер спрабуюць разгайдаць карабель і на гэтай хвалі нездавальнення прыйсці да ўлады.

ЗАЯВА АПАЗІЦЫІ БНФ

## НЕ ПАЛЕПШЫЛАСЯ НІЧОГА

Мінула 110 дзён з дня заступлення А. Лукашэнкі на пасаду Прэзідэнта Беларусі і чатыры месяцы пасля яго выбрання, а таксама і тэрмін, на працягу якога апазіцыя БНФ у парламенце Беларусі цярпліва і карэктна маўчала, чакаючы першых вынікаў дзейнасці Прэзідэнта. Цяпер апазіцыя сказала сваё слова. "Калі зараз задаць пытанне, што ж палепшылася ў нашым жыцці за чатыры месяцы, то відавочна, што не палепшылася нічога. Наадварот, пагоршылася, -- гаворыцца ў заяве дэпутатаў ад апазіцыі. -- Дзе барацьба з карупцыяй! Каго судзілі, пасадзілі, вывелі на чыстую ваду, пакаралі за карупцыю! Нікога. Засталося ўсё старое кіраўніцтва, тыя ж людзі ва ўрадзе і ва ўсіх структурах улады, а некаторыя, замешаныя раней у свойскіх дачыненнях з вайсковай дзяржаўнай мафіяй, вярнуты на пасады.

Дзе абяцанае зніжэнне цэнаў!

Дзе абяцанае спыненне інфляцыі!

Дзе абяцаны запуск вытворчасці, заводаў, разгрузка затавараных складоў прадпрыемстваў і г.д.!

Нічога гэтага няма і быць не магло, бо спадар А. Лукашэнка і кан'юнктуршчыкі, якія яго падтрымліваюць, не ведаюць, як выканаць свае папулісцкія абяцанні, не разумеюць, як вывесці эканоміку з крызісу, і не імкнуцца праводзіць дзяржаўную палітыку, заснаваную на нацыянальных інтарэсах. Дробная наменклатура, што ўсплыла пасля прэзідэнцкіх выбараў разам з А. Лукашэнкам, аб'ядналася з буйной, і ўсё, як і раней, пакацілася ў яму. Вось і ўсё штукарства, зробленае на сляпым даверы выбаршчыкаў, якія выступілі супраць мафіёзна-карумпаванай палітыкі Саўміна і яго кіраўніка".

Апазіцыя ставіць у віну Прэзідэнту "тэндэнцыі да аўтарытарызму".

ПРАГНОЗ

## БЕСПРАЦОЎЕ Ў 1995 ГОДЗЕ

У 1995 годзе на рынак працы Рэспублікі Беларусь чакаецца паступленне рабочай сілы ў колькасці 840 тысяч чалавек, у тым ліку: вызваленых работнікаў з прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый -- 130 тысяч чалавек; моладзі, якая закончыла агульнаадукацыйныя школы, ВНУ, тэхнікумы і прафтэхвучылішчы, -- 112 тысяч чалавек; ваеннаслужачых, звольненых з арміі, -- 32 тысячы чалавек; звольненых па прычынах цякучасці кадраў -- 415 тысяч чалавек; беспрацоўных, якія знаходзяцца на ўліку на пачатак года, і асоб, занятых у дамашняй гаспадарцы, -- 151 тысяча чалавек.

Указанае паступленне рабочай сілы на рынак працы перавысіць попыт на яе на 187 тысяч чалавек. Па разліковых даных Рэспубліканскага цэнтра занятасці насельніцтва (за некаторым удакладненнем), колькасць беспрацоўных к канцу 1995 года павялічыцца да 190 тысяч чалавек, што складзе 3,4 працэнта ад колькасці працаздольнага насельніцтва ў працаздольным узросце.

ПАКУПНАЯ ЗДОЛЬНАСЦЬ

## НЕ ПА КІШЭНІ

Згодна з данымі Брэсцкага абласнога ўпраўлення статыстыкі, пакупная здольнасць жыхароў вобласці значна знізілася ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года.

Скараціўся продаж многіх харчовых тавараў, масла жывёльнага -- на 45 працэнтаў, мяса, птушкі, цукру, кандытарскіх вырабаў -- на 31--38 працэнтаў, мясных кансерваў, садавіны, яек -- на 26--30 працэнтаў, бульбы, рыбы -- на 14--16 працэнтаў.

Амаль у 3 разы скараціўся продаж тэлевізараў, мыйных сродкаў, у 2 разы менш купляюць тканін, вопраткі, бялізны, панчошна-шкарпэтачных вырабаў, на 41 працэнт знізіўся продаж трыкатажных вырабаў, на 19 -- халадзільнікаў.

Зрэшты, чаму здзіўляцца! Сярэднямесячны заробак у верасні на прамысловых прадпрыемствах вобласці склаў 108 300 рублёў, работнікі сферы народнай адукацыі і культуры атрымалі ў сярэднім 60--80 тысяч, заробак у калгасах -- 54 тысячы рублёў. З такімі грашыма не да тэлевізараў і халадзільнікаў.

ДАСЛЕДУЮЦЦА... ПЧОЛАСЕМ'І



Яшчэ адным напрамкам даследаванняў заняліся вучоныя Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Гэта пчалярства.

Рознабаковаму вывучэнню былі падвергнуты тры дзесяткі пчоласем'яў. Вуллі паслядоўна выносіліся на ўчасткі, засеяныя культурамі з розным перыядам цвіцення. Потым, даследчыкі шматлікія пробы, вучоныя рабілі заключэнне аб тым, у якой ступені розныя сарты мёду назапашваюць радыенукліды. Аналізу падвяргаўся таксама мёд з вулляў, што знаходзіліся на тэрыторыі адселеных вёсак, дзе доза "забруджвання" найбольш высокая.

На падставе атрыманых даных вучоныя складаюць рэкамендацыі для вытворцаў каштоўнага прадукта і спажыўцоў.

НА ЗДЫМКУ: падрыхтоўку пчол да зімоўкі праводзяць спецыяліст-пчаляр з 30-гадовым вопытам Іван БАНДАРЭНКА і вядучы спецыяліст сектара пчалярства запаведніка Сяргей МАЛАШКІН.

ВЫКРАДАННЕ СТАГОДДЗЯ

## МЕДЗЬ З РАДЫЕАКТЫЎНАГА МАГІЛЬНІКА

Упершыню ў гісторыі Беларусі, а магчыма, упершыню ў гісторыі былога СССР выкрадзена шэсць тон радыеактыўных адходаў з магільніка дзяржаўнага спецыялізаванага прадпрыемства "Палессе".

80 працэнтаў ад украдзеных адходаў складала радыеактыўная медзь. Тыя, хто арганізаваў крадзеж, відаць, былі не толькі добра азнаёмлены з шляхамі-дарогамі, перакрытымі міліцыяй, але і ведалі валютную цану ўкрадзенай медзі. След злачынцаў прастыў.

БУКЕТ ХВАРОБ

## ПАКУЛЬ НЕ ЭПІДЭМІЯ

У апошні час у Мінску істотна павялічылася захворванне на вострыя кішэчныя інфекцыі.

Як паведаміла агенцтву РІД загадчыца працэпідэмічнага аддзялення гарадскога Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Святлана Крэтава, за мінулы месяц такіх выпадкаў было зарэгістравана 387. У параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года адбыўся рост у 1,7 раза. Выяўлена таксама 158 выпадкаў дызентэрыі (рост у 4 разы), 115 выпадкаў сальманелёзу (рост у 2,5 раза).

За гэты ж перыяд зарэгістравана 6 выпадкаў дыфтэрыі (у мінулым годзе -- 5) і адзёру (2 выпадкі). Захворванне каростай узрасло ў 4,2 раза (са 128 да 546 выпадкаў), на 50 працэнтаў -- краснухай (са 117 да 177), на 60 працэнтаў -- свінкай (са 184 да 304). Знізілася колькасць захворванняў на шкарлятыну, коклюш, педыкулёз...

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

БЕЛАРУСЬ можа мець каля 20 мільёнаў тон умоўнага паліва ад нетрадыцыйных крыніц энергіі -- ветру, сонца, малых рэк і вадасцёкаў, перападаў ціску і тэмператур. Гэта амаль палова таго, што дзяржава сёння вымушана закупляць за мяжой, у асноўным у Расіі.

ПРАЎЛЕННЕ Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь паведаміла, што ўжо ў снежні будуць уведзены ў абарачэнне 20-тысячныя купюры беларускага рубля. З новага года чакаецца з'яўленне яшчэ больш буйных банкнотаў.

10 ЛІСТАПАДА па запрашэнню Саюза пісьменнікаў Літвы, Асацыяцыі літоўскіх беларусістаў, Таварыства беларускай культуры Літвы ў Вільні пабываў Васіль Быкаў. На сустрэчу з вядомым пісьменнікам сабраліся літаратары, навукоўцы, журналісты, перакладчыкі яго твораў. В. Быкаў сустрэўся таксама з вучнямі беларускай школы ў Вільні, іх настаўнікамі і бацькамі.

У ПІНСКУ, дзе месціцца апорны пункт Беларускага навукова-даследчага інстытута пладаводства, прайшлі выпрабаванні больш за 300 сартоў вінаграду цэнтральнай і заходнееўрапейскай селекцыі. Каля 40 з іх рэкамендаваны для вырошчвання ў адкрытым грунце ў Беларусі. Пінскі вінаград замежныя селекцыянеры называюць цудам, які не могуць пахваліцца многія еўрапейскія краіны.

"ШЛЯХ да дабрабыту -- уз'яднанне народаў Русі!" -- пад такім лозунгам пікетавалі Нацыянальны банк Беларусі каля трох дзесяткаў членаў Ліберальна-дэмакратычнай партыі і Славянскага сабора "Белая Русь" на чале з сумна вядомым "патрыётам" Сяргеем Гайдукевічам. Яны патрабавалі адстаўкі "галоўнага вінойніка краху фінансавай сістэмы рэспублікі" Станіслава Багданкевіча.

НА ПРАВАСЛАЎНЫХ Ефрасіннеўскіх могілках у Вільнюсе адкрыты помнік Паўлу Карузе, выдатнаму дзеячу культуры, які працаваў у Літве, беларусу па паходжанні. Аўтар помніка -- вядомы беларускі скульптар Эдвард Падбярэзскі. На ўрачыстасці прысутнічаў Пасол Рэспублікі Беларусь у Літве Яўген Вайтовіч.

ЦУКРОВЫЯ заводы Беларусі перапрацавалі ўжо 438 тысяч тон цукровых буракоў з 900 тысяч тон. Выхад цукру невялікі, усяго 11 працэнтаў. Спецыялісты тлумачаць гэта нізкім утрыманнем цукру ў караняплодах. Усяго ж атрымана 46,5 тысячы тон цукру.

ЛЁН, які вырошчваюць у Горацкім раёне Магілёўскай вобласці, карыстаецца попытам на кітайскім рынку. Тут за яго плацяць у паўтара раза больш, чым на Аршанскім льнокамбінаце. Магілёўскім ільном зацікавіліся таксама фірмы з Германіі і Бельгіі.

15 ТЫСЯЧ гектараў паркаў, сквераў і бульвараў будуць закладзены ў бліжэйшыя гады ў гарадах і мястэчках Беларусі. Цяпер на аднаго чалавека прыпадае 12,5 квадратнага метра плошчы зялёных насаджэнняў. А ў перспектыве гэты нарматыў павінен дасягнуць 30 квадратных метраў.

У 2,2 РАЗА вырасла за 9 месяцаў гэтага года страты рабочага часу. Гэта раўназначна таму, што ў прамысловасці Беларусі не працавала 10 працэнтаў сярэднеспісачнай колькасці, або 107,8 тысячы чалавек. На аднаго работніка прамысловасці прыпадае ў сярэднім 19 страчаных дзён.

РЭСТАЎРАЦЫЯ

Усё часцей у сучасныя ансамблі нашых гарадоў уводзяцца пабудовы даўніны.

Адрэстаўраваны будынак вадзянога млына, узведзены ў пачатку гэтага стагоддзя, неўзабаве адкрые свае дзверы ў Оршы. Тут пачне фарміравацца музей этнаграфіі. На першым яго паверсе размесціцца экспазіцыя, што раскажа аб розных відах млыноў, аб перапрацоўцы збожжа, а на другім будуць сабраны вырабы народных умельцаў Аршаншчыны.




НА ЗДЫМКУ: загадчыца будучага музея Надзея ФОМЧАНКА (злева), спецыяліст па будаўніцтву аддзела культуры гарвыканкома Сяргей ГОЛУБЕЎ і загадчыца аддзела культуры гарвыканкома Валянціна СІДНЯКОВА ўдакладняюць дэталі праекта.

## ЯК МЫ ЖЫВЁМ





# "БЮДЖЭТ СПАЖЫЎЦУ НЕ ТАВАРЫШ..."

*Памятаеце рускае, хвацкае: "Эх, полным полна коробушка -- есть в ней ситец и парча..." Спецыялісты сцвярджаюць, што гэта амаль пра наш сённяшні "спажывецкі кошык". Ну хіба што толькі парчы ў ім нестае. Уяўляю, як "тутэйшыя" чытачы ўсміхнуцца, не -- скрывяцца: ну вось, аказваецца, мы яшчэ ці не шыкуем... Што на гэта адказаць? Можа "філасофскім" -- хто як...*

### ПАЖАДАННІ І ПАТРАБАВАННІ СЯРЭДНЯЙ ДУШЫ

Тое, што мы завём "спажывецкім кошыкам", у афіцыйных паперах значыцца, як "сярэднедушавы мінімальны спажывецкі бюджэт". Ён вылічваецца (зноў-такі мовай дакумента) "для розных сацыяльна-дэмаграфічных груп насельніцтва". Мяркую, тлумачыць чытачам (і былым савецкім, і тым больш замежным), што такое "спажывецкі кошык" увогуле, -- не трэба: збольшага ўяўленне пра яго маюць усе ці амаль усе. Іншая справа -- зазірнуць у гэты самы кошык, а заадно і задацца пытаннем: што ж адтуль перападае асобнаму канкрэтнаму чалавеку? І вось тут, як высветлілася, я раблю памылку: разлічаны Дзяржкамстатам і Міністэрствам працы "спажывецкі кошык" -- хутчэй "ідэал", да якога трэба імкнуцца, а не зафіксаваная матэрыяльная рэчаіснасць, як гэта многім здаецца. Тлумачэнні начальніка аддзела Міністэрства працы Рэспублікі **Беларусь Алены КОЛАС:**

-- Разлікам мінімальнага спажывецкага бюджэту мы пачалі займацца недзе ў канцы 90-га года: на той час інфляцыя ўжо зрабіла свае першыя крокі, і меркавалася "ратавацца" ад яе шляхам індэксацыі даходаў насельніцтва, для чаго і патрабавалася ведаць велічыню "спажывецкага кошыка". Узяліся за справу з энтузіязмам: спадзяваліся, што сапраўды мінімальныя даходы нашых грамадзян будуць адпавядаць мінімальнаму спажывецкаму бюджэту. Таму імкнуліся весці разлікі як мага больш дакладна, улічвалі ўсе спажывецкія комплексы. Але, на жаль, вельмі хутка высветлілася, што за інфляцыяй не ўгнацца і наш прыбытак адстае ад мінімальнага бюджэту ўсё больш і больш.

Падкрэслю, наш "спажывецкі кошык" — гэта нормы, на якія трэба арыентавацца. Тыя лічбы, велічыні, што ўключаны ў мінімальны спажывецкі бюджэт, зусім не азначаюць, што кожны з нас абавязкова ўсё гэта ўжо мае. Вось, напрыклад, апошнія разлікі. У верасні мінімальны бюджэт у сярэднім склаў 119 тысяч рублёў на аднаго чалавека -- столькі трэба кожнаму, каб цалкам аднавіць сілы, задаволіць самыя неабходныя жыццёвыя патрабаванні. Але сёння такія грошы ёсць далёка не ў кожнага. І хаця сярэднямесячны заработак у Беларусі склаў прыблізна 123 тысячы рублёў і, здавалася б, мінімум "укладваецца" ў гэтую лічбу, але... Але вельмі многа людзей на той жа перыяд мелі заработную плату ўдвая меншую, і на іх утрыманні яшчэ нехта знаходзіўся, у першую чаргу, канешне, -- дзеці. А пра сучасныя пенсіі і казаць няма чаго: большасць з іх і блізка не падыходзяць да мінімальнага спажывецкага бюджэту.

Хаця, калі казаць пра сам "спажывецкі кошык" як нарматыўны паказчык, ён у нас досыць поўны і разнабаковы. Напрыклад, харчовы раздзел уключае свежую рыбу, масла сметанковае і алей, яйкі, пшанічны хлеб, мяса некалькіх відаў, гародніну, фрукты, ягады... Усе нормы спажывання разлічаны з удзелам медыкаў, зыходзячы з патрабаванняў рацыянальнага харчавання. Іншая справа, што ў многіх выпадках яны як і былі, так і застаюцца нормамі толькі на паперы...

Усе астатнія намінацыі разлічваліся з дапамогай бюджэтнай статыстыкі, якая вядзе падлікі канкрэтнага спажывання прамысловых тавараў і паслуг у нізкааплатных груп насельніцтва.

### "АДДАЙЦЕ МАЕ ВІШНІ..."

У гутарцы з Аленай Колас высветлілася, што сёння ўсе разлікі па "спажывецкаму кошыку", калі і не зусім пад пагрозай зрыву, дык маюць ужо не тое значэнне, што раней. Справа ў тым, што індэксацыя зараз вядзецца па іншых методыках, мінімальныя даходы людзей таксама практычна ніяк не стасуюцца з мінімальным спажывецкім бюджэтам, дарэчы, нейкіх значных дзяржаўных дапамог людзям, якія знаходзяцца ў асабліва цяжкіх матэрыяльных умовах, таксама няма. Тыя ж выплаты, што існуюць -- у асноўным на дзетак, інвалідам і непрацуючым пенсіянерам, -- вельмі маленькія, абмежаваныя і рэальна палепшыць стан малазабяспечаных сем'яў не могуць. І ўсё ж, які практычны рэзананс мае "спажывецкі кошык"? Без ведання яго параметраў немагчыма дакладна ацаніць узровень жыцця людзей, і таму "спажывецкі кошык" робіцца адным з галоўных аргументаў у дыялогах прафесійных саюзаў і ўрада.

Алена Колас сказала: калі даводзіцца размаўляць з людзьмі, тыя пытаюцца: дзе мае клубніцы і вішні, што ўваходзяць у харчовы спіс "спажывецкага кошыка"? Што можа ім адказаць на гэта Алена Пятроўна, мы ўжо ведаем. Задача ж прафсаюзаў зрабіць так, каб тыя вішні абавязкова трапілі на стол працоўных. Слова **Віктару ТАЎСТАКОРАВУ**, аднаму з кіраўнікоў Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі:

-- Так, прафсаюзы выкарыстоўваюць "кошык" у перамовах з наймальнікамі, калі трэба вырашаць праблемы аплаты працы. Раней мы аспрэчвалі і тыя цэны, што закладваліся дзяржаўнай статыстыкай у мінімальны бюджэт, але зараз на гэты конт рознагалоссяў практычна няма. Дарэчы, што тычыцца "харчовага кошыка", то мы 20-га чысла кожнага месяца вядзем фіксацыю цэн па 19 відах прадуктаў харчавання ў розных кутках Беларусі як у дзяржаўным гандлі, так і ў прыватным, і кааператыўным.

Але вернемся да праблем з заработнай платай. Сёння для прафсаюзаў гэта сапраўдны "галаўны боль". У генеральным пагадненні паміж прафсаюзамі і ўрадам па патрабаванню прафсаюзаў былі закладзены суадносіны паміж размерамі мінімальнага спажывецкага бюджэту і мінімальнай зарплатай. Як вы ўжо, мабыць, ведаеце, гэтая дамова практычна не вытрымліваецца. Маючы ў руках разлікі па "спажывецкаму кошыку", працсей весці размову і аб павышэнні мінімальнага заробку, які ляжыць у аснове ўсёй адзінай тарыфнай сеткі. Сапраўды, адна з асноўных задач прафсаюзаў -- перанесці змесціва ўмоўнага, папяровага "спажывецкага кошыка" ў нашы рэальныя сумкі і кашы.

### ЧАГО Ж НАМ НЕ ХАПАЕ ДЛЯ ПОЎНАГА ШЧАСЦЯ!

Сумна, але многім жыхарам Беларусі сёння нестае малака, масла, сыру, тварагу, не гаворачы ўжо пра мяса і фрукты... Не ўсім, канешне. Ёсць катэгорыя людзей, якія ўсё ж "зводзяць канцы з канцамі". А ёсць і такія, для каго ананасы, чорная ікра і дарагія французскія каньякі -- справа зусім будзённая. А вось лічба, якую толькі што апублікавалі многія сродкі масавай інфармацыі Беларусі: паводле звестак Дзяржкамстата, больш за 5 мільёнаў чалавек маюць даходы, ніжэйшыя за пражытачны мінімум. Жахліва, амаль палова насельніцтва Беларусі не мае нават мінімальнага матэрыяльнага ўзроўню. Рысай беднасці ў рэспубліцы прызнана лічба, роўная 60-ці працэнтам мінімальнага спажывецкага бюджэту на аднаго члена сям'і. Сёння гэта -- 54 902 рублі. Тыя нашы чытачы, хто мае ў кашальках не рублі, а цвёрдую валюту, падлічыце, колькі гэта будзе долараў, калі сёння за 1 долар у Мінску даюць прыкладна 7 000 рублёў. А цэны тым часам усё бліжэй і бліжэй да сусветных. Ужо з новага года мы будзем плаціць спаўна за ацяпленне, газ, электраэнергію, якія спажываем у сваіх кватэрах. Пры гэтым трэба ўлічваць, што згодна з заявамі некаторых нашых урадавых дзеячаў Расія прадае Беларусі энерганосьбіты па цэнах, якія мала саступаюць сусветным. Што ж тычыцца заработку сярэдняга беларуса... Вось яшчэ красамоўныя лічбы: мінімальны заробак у доларавым эквіваленце ў верасні склаў у Расіі -- 8,9 долара, у Беларусі -- 2,2. Добра, няхай сабе мінімальная зарплата смешная, можа, сярэдні заробак выглядае больш грунтоўна, тыя 123 тысячы, пра якія мы ўжо згадвалі? Падлічылі? І дваццаці долараў няма! Дык чаго ж многім з беларусаў не хапае для поўнага шчасця? Можа, хлеба?

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

## З БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

# "СУСТРЭЧЫ КУЛЬТУР" У ЛЮБЛІНЕ

Ужо некалькі гадоў Люблін імкнецца спраўдзіцца ў ролі горада, размешчанага на мяжы культур Усходу і Захаду. Развіліся тут многія ініцыятывы: дзейнічае ўзначалены прафесарам Ежы Клачоўскім Інстытут Сярэдне-Усходняй Еўропы, выдаецца нядрэнны літаратурны квартальнік "Крэсы", сваю навукова-музычную дзейнасць праводзіць фонд "Музыка крэсаў". Можна сказаць таксама пра шмат меншых пачынанняў, такіх, як, напрыклад, "Аркестр Святога Мікалая", які горш ці лепш папулярызуе культуру ды фальклор Карпат, прадстаўляючы жыхарам Лübліна песенькі ўкраінцаў, лемкаў, славакаў і іншых народаў, якія жывуць у гарах.

Нельга забывацца і пра існуючы ўжо 6 гадоў у каталіцкім Люблінскім універсітэце факультэт славянскай філалогіі, які рыхтуе спецыялістаў у галіне рускай, беларускай і ўкраінскай філалогіі. Трэці юбілей адзначаў таксама ў гэтым годзе факультэт украіністыкі ва універсітэце Марыі Кюры-Складоўскай, другі -- факультэт беларусістыкі, не кажучы нават аб русістыцы, якая дзейнічае ўжо не ад сёння.

У верасні гэтага года цікавую культурную ініцыятыву пачаў "Тэатр НН", які знаходзіцца пры вуліцы Гродзкай, 34. Дзякуючы фінансавай падтрымцы аддзела культуры гарадской установы ў Любліне, Фонду Стэфана Баторыя і Фонду культуры і пад пачэсным патранатам прэзідэнта горада Любліна, ён наладзіў цыкл сустрэч з творцамі і літаратурнымі крытыкамі, ілюстраваны выстаўкамі пластыкі ды фатаграфікі, тэатральнымі спектаклямі ці фільмамі відэа. Цыкл названы арганізатарамі -- "Сустрэчы культур". Удзельнікі першага выдання "Сустрэч" (верасень -- кастрычнік) -- прадстаўнікі інтэлектуальных і мастацкіх асяроддзяў Германіі, Украіны, Беларусі, ромаў і крымскіх татараў.

Я прысутнічала на дзвюх вечарынах, прысвечаных культуры Беларусі (11--12 кастрычніка гэтага года). Сустрэча з гэтай культурай была непасрэдным вынікам асабістага кантакту аднаго з арганізатараў з прадстаўнікамі мінскага інтэлектуальнага асяроддзя. Таму, магчыма, удзельнікі гэтых спатканняў з баларускага боку не самыя выдатныя вучоныя ці паэты Рэспублікі Беларусь. Спадабалася мне затое выстаўка карцін ці малюнкаў маладога і прыгожага мастака -- Міхаіла Анемпадзістава. Тэмай большасці ягоных прац быў... пацук. Пацук, які чытаў пісьмо, пацук з марожаным, пацук-п'яніца, малыя пацучаняты. Некаторыя з гэтых карцін мелі забаўныя подпісы на беларускай мове, хаця ў лацінскім алфавіце. Выстаўка монатэматычная, але ўсё ж такі цікавая, створана мастаком спецыяльна з нагоды гэтай сустрэчы. Пераважалі пастэльныя фарбы, а можа проста такія толькі засталіся ў маёй памяці.

Анемпадзістаў прачытаў таксама некалькі сваіх вершаў, напісаных у якасці тэкстаў для сучасных беларускіх рокавых ансамбляў.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

# "НАШ КАСЦЮШКА СЛАЎНЫ БЫЎ"

Пра нацыянальнага героя нашай Бацькаўшчыны Тадэвуша Касцюшку складзена шмат легенд, паданняў, песень і прымавак. Пра адну з такіх народных песень успамінаюць у сваёй кнізе Язэп Юхо і Уладзімір Емяльянчык "Нарадзіўся я ліцьвінам" (Мн., 1994 г.):

**"Наш Касцюшка слаўны быў,**
**Маскалёў ён добра біў..."**

Так, была такая бітва. Роўна 200 гадоў назад, у 1794 годзе, пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі адбылося паўстанне нашага народа супраць Расійскай імперыі за сваю волю, роўнасць і незалежнасць. Полымя нацыянальнага паўстання ахапіла польскія землі, значную тэрыторыю Беларусі, Літвы і частку Латвіі.

З гэтай нагоды ў памяшканні Слонімскага беларускага драматычнага тэатра адбылася гісторыка-літаратурная вечарына, якую арганізавала мясцовая суполка Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне".

Адкрыў і вёў вечарыну кіраўнік слонімскай суполкі БНФ Мікалай Ракевіч, які адзначыў важнасць падзеі двухсотгадовай даўнасці.

Кандыдат гістарычных навук Павел Лойка спыніўся на багатай гістарычнай спадчыне горада Слоніма, яе знакамітых земляках, пра якіх павінна быць захавана памяць.

Гісторык Уладзімір Емяльянчык нядаўна выдаў першую сур'ёзную манаграфію пра паўстанне 1794 года "Паланез для касінераў". Аўтар гэтай кнігі таксама быў госцем слонімцаў. Справа ў тым, што, як адзначыў прамоўца, у канцы ліпеня 1794 года ў "корпусе" К. Launch Серакоўскага налічвалася ўжо больш за 4 тысячы чалавек пры 26 гарматах. З такою сілаю можна было сапраўды разлічваць на поспех. 2 жніўня адбылася сутычка атрада К. Серакоўскага з расійцамі пад Слонімам. Серакоўскі страціў двух афіцэраў і 15 салдат, расійцы ж панеслі больш значныя страты -- параненымі і забітымі да 300 чалавек. Нягледзячы, здаецца, на спрыяльныя ўмовы для далейшага наступлення, пасля Слоніма К. Серакоўскі вырашае адысці да Ружан, а потым і да Бярозы. Ён лічыць, што, адцягваючы на сябе значныя сілы расійскага войска, дае большую свабоду дзеянням паўстанцаў пад Вільняй і Гародняй. У той жа час Т. Касцюшка раіць Серакоўскаму ўчыніць "нібыта намер руху на Нясвіж", дзе расійскае войска мела багатыя склады. У той час Серакоўскаму нельга было спускаць з вока і Бярэсце. Прыйшлі звесткі, што з Украіны ідзе ў тым накірунку шматтысячны расійскі атрад. У верасні "берасцейскі напрамак" для атрада К. Серакоўскага стаў рашаючым...

Цікавым і эмацыянальным было выступленне доктара філалагічных навук, члена-карэспандэнта Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь Алега Лойкі. Ён расказаў пра Агінскіх, якія прымалі актыўны ўдзел у паўстанні 1794 года, а таксама ў свой час праславілі Слонім тэатральна-мастацкім жыццём. "Таму я спадзяюся, -- сказаў Алег Антонавіч, -- што ўсё ж будзе ў бліжэйшы час пабудаваны ў нашым горадзе будынак тэатра, а плошча Леніна стане Тэатральнай плошчай".

На вечарыне выступілі таксама краязнавец і паэт Васіль Супрун, празаік і драматург Аляксей Якімовіч. Хораша і весела спяваў беларускія песні і прыпеўкі слонімскі ансамбль "Грымата", якім кіруе Мікалай Адамчык.

Хачу сказаць, што на вечарыне быў прыняты зварот да мясцовых улад аб наданні вуліцам Слоніма імён Т. Касцюшкі і К. Серакоўскага, а на будынку касцёла Святога Андрэя адкрыць мемарыяльную дошку, прысвечаную 200-м угодкам вызвольнага паўстання.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

# ПАЎСТАННЕ Ў ЛАГЕРЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

У гэты перыяд былі арыштаваны і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання ўсе 11 членаў бюро ЦК КП(б)Б, 6 з 7 кандыдатаў у члены бюро, а да пачатку 1938 года аказаліся арыштаванымі 42 з 64 членаў ЦК КП(б)Б, выбраных у чэрвені 1937 года XVI з'ездам Кампартыі Беларусі.

У дакументах тых гадоў, прадстаўленых НКУС БССР у ЦК КП(б)Б, наркамат асветы, узначальваемы У.Піваваравым, характарызаваўся як "ачаг контррэвалюцыі і шпіянажу".

У дакладной запісцы, прадстаўленай наркомам НКУС БССР Наседкіным, сцвярджалася: "Наркамат асветы з'яўляецца ачагом польскіх шпіёнаў, трацкістаў, правых і нацыянал-фашыстаў, якія па заданню польскіх разведорганаў праводзяць актыўную шпіёнскую, разведвальную і шкодніцкую работу"...

Далейшыя падзеі, натуральна, развіваліся па дакладна адпрацаванаму сцэнарыю... 2 ліпеня 1938 года нарком асветы БССР У.Піваварай быў арыштаваны ў сябе дома і пасля праведзенага стараннага вобыску (які нічога не даў) быў змешчаны ва ўнутраную турму НКУС г. Мінска. Потым на працягу амаль двух гадоў ён знаходзіўся пад следствам, і толькі 29 мая 1940 года яму абвясцілі прыгавор Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР аб тым, што ён "за контррэвалюцыйную дзейнасць" асуджаны на 15 гадоў папраўча-працоўных работ.

Але гэта было потым... Цяпер можна толькі здагадвацца, якім неймаверным мукам падверглі яго ў засценках мінскага НКУС. У красавіку 1940 года жонка апошні раз убачыла Уладзіміра Іванавіча на 20-мінутным спатканні ў мінскай турме НКУС. Па знешняму выгляду можна было прыйсці да заключэння, што "майстры" сваёй справы з НКУС давялі яго да поўнай адсутнасці памяці. У выніку катаванняў, у прыватнасці, прыёмаў "вальса" ў яго на абедзвюх руках і нагах былі паламаны і садраны пазногці і нягледзячы на гэта, ён не даў ніякага "кампрамата" на сваіх былых калег, хаця некаторыя з іх далі паказанні аб яго "контррэвалюцыйнай дзейнасці". У чэрвені 1940 года У.Піваварай быў адпраўлены ў Варкутлаг...

У Комі АССР перад вайной колькасць зняволеных удвая перавышала грамадзянскае насельніцтва. Лагерны рэжым рабіўся ўсё больш жорсткім. Гэта перш за ўсё адбівалася на зняволеных з 58-м артыкулам. У адрозненне ад усіх астатніх катэгорый зняволеных яны з пачаткам вайны пазбаўляліся нават магчымасці пайсці на фронт і загінуць там...

Лагер "Лесарэйд", дзе апынуўся Уладзімір Іванавіч, размяшчаўся за шэсць кіламетраў ад вёскі Усць-Уса. Быў ён невялікім як па маштабах вытворчасці, так і па колькасці зняволеных. Усяго іх тут значылася 193 плюс 27 чалавек вольнанаёмных. Дзве трэція былі асуджаны за "контррэвалюцыйныя злачынствы". Працавалі на нарыхтоўцы драўніны для рудбудоўлі, шпал.

У гэтым лагеры ўтрымлівалася звыш пяцідзесяці нашых землякоў, якія трапілі туды ў 1937--1939 гадах. Сярод іх быў і І.Крамаў-Уцёмаў па спецыяльнасці ўрач, прафесар. І такіх было нямала.

Большасці чытачоў практычна нічога невядома аб фактах масавага супраціўлення рэжыму ГУЛАГа. А менавіта восенню 1941 года ў знак пратэсту супраць дзеянняў лагернай адміністрацыі адбыўся шэраг як стыхійных, так і арганізаваных выступленняў зняволеных... Поўная праўда яшчэ патрэбна: ніхто і ніколі не расказваў яе ні з трыбуны, ні ў друку.

Менавіта восенню 1941 года ў "Лесарэйдзе" ўзнікла змова. Па матэрыялах следства НКУС і лагернай адміністрацыі, яе ініцыятарамі сталі так званыя "трацкісты" і "эсэры". Ідэйнымі правадырамі трэба лічыць А.Макеева, былога кіраўніка "Комілес", і У.Піваварава.

Як бы там ні было, гэтыя два чалавекі пачалі ажыццяўляць змову, шукаць аднадумцаў. І такіх знайшлі: І.Звераў, які потым стаў камандзірам паўстанцаў, М.Дунаеў -- начальнік паўстанцкага штаба (адбываў 15 гадоў за "ўдзел у трацкісцкай арганізацыі"). Ад пяці да дзесяці гадоў мелі тэрміны і іншыя паўстанцы, у тым ліку і нашы землякі: А.Яшкін, В.Парахневіч, В.Казлоўскі і інш.

... Першы раз на арганізацыйную нараду змоўшчыкі сабраліся ў снежні 1941 года. На іх думку, за паўстанцамі павінны былі пайсці і калгаснікі, якія галадалі. Збіраліся яшчэ некалькі разоў. Стварылі штаб паўстання і прызначылі яго тэрмін -- студзень 1942 года.

Паўстанцы выпрацавалі такую праграму дзеянняў:

1. Вызваленне з лагераў і турмаў усіх зняволеных.
2. Прыцягненне на бок паўстанцаў працоўных і спецперасяленцаў, а таксама мясцовага насельніцтва.
3. Стварэнне на падставе добраахвотнага набору ўзброенай арміі.
4. Неадкладнае развіццё прыватнай уласнасці і роспуск калгасаў.

Паўстанне павінна было пачацца аднachасова на "Лесарэйдзе" і ў лагерным пункце Поле-Кур'я. Пасля аб'яднання паўстанцы мелі намер захапіць райцэнтр Усць-Уса, адтуль па рацыі прад'явіць ультыматум аб вызваленні ўсіх зняволеных Варкутлага, а ў выпадку адмовы рухацца групамі на Варкуту, Інту, Котлас, вызваляючы зняволеных.

Паўстанне пачалося ў суботні дзень 24 студзеня 1942 года. Вольныя ад дзяжурства ахоўнікі дружна збіраліся ў лазню. Варта было толькі зачыніцца дзвярам лазні, строга па распрацаванаму плану паўстанцы раззброілі стралка аховы, а потым, пранікнуўшы ў казарму, і дзяжурнага. Тут жа ў казарме паранілі двух стралкоў. Пералічылі першую здабычу: 12 баявых вінтовак, 4 рэвальверы, 1 682 патроны.

Узброіўшыся, група зняволеных накіравалася да лазні, і стралкоў з лазні перавялі пад замок у сховішча гародніны.

Адкрылі зону. Паўстанцы накіраваліся па бараках з агітацыяй далучыцца да іх. Адкрылі харчовы і рэчавы склады. Усім паўстанцам былі выдадзены новыя кажухі, валёнкі, бушлаты, штаны, шапкі, рукавіцы. З гужавога транспарту быў арганізаваны абоз на васьмі падводах.

Частка зняволеных, у асноўным непалітычныя, не падддаліся на ўгаворы ўдзельнічаць у паўстанні, разбегліся па кутах у зоне і за яе межамі.

Тым часам у "Лесарэйдзе" з 141 чалавека, апранутага і абутага ў новае абмундзіраванне, канчаткова згадзіліся на выступленне толькі 109. Астатнія 32, завагаўшыся ў апошні момант (уцёк аднаго стралка ўжо многім быў вядомы), адышлі ў цень лагерных пабудоў. Тыя, хто згадзіўся, рушылі на Усць-Усу.

Першым нападу падвергнуўся будынак камеры папярэдняга зняволення. Адстрэльваючыся праз драўляныя дзверы, процістаяць паўстанцам спрабавалі два міліцыянеры аховы, але абодва былі забіты. Паўстанцы вызвалілі 38 чалавек, 12 з іх згадзіліся да іх далучыцца.

А ў гэты час другая група паўстанцаў падступала да будынка пошты. К вечару ён быў у іх руках.

Яшчэ адна група паўстанцаў спрабавала захапіць аэрадром, дзе ў гэты час знаходзіліся два самалёты. Але стралок, які ахоўваў аэрадром, і пілот сустрэлі паўстанцаў агнём. Тыя былі вымушаны адступіць.

Свайго апагея бой дасягнуў ля будынка міліцыі. Неслі страты і паўстанцы. Цудам праз радыёбюро кіраўніцтва параходства ў Сыктыўкар пайшла тэлеграма пра паўстанне. Магчыма, паўстанцы пра гэта магутнае радыёбюро нічога не ведалі. Яно знаходзілася ў лесе, за шэсць кіламетраў ад Усць-Усы.

А ў радыёцэнтр параходства, што знаходзіўся ў вёсцы, пераапрануўшыся ў старое адзенне, прыйшла інструктар райкома партыі М.Карпава. Мінаваўшы першы паверх, захоплены паўстанцамі, яна паднялася на другі, адкуль праз некаторы час, літаральна пад носам паўстанцаў, быў гатовы кароткі радыёзварот: "Таварышы! У вёсцы банда, узбройвайцеся, хто чым можа, і ўступайце ў барацьбу з бандытамі".

Пасля аб'яўлення трывогі няспынным гудком загудзеў кансервавы завод. Тут падрыхтаваліся да абароны, хто мог, прынёс з дому драбавік з патронамі.

Узмацняўся бой за будынак міліцыі. Павялічвалася і колькасць яго абаронцаў: падышлі 16 байцоў ваенізаванай аховы параходства. Страляніна не сціхала ні на мінуту. Усё часцей акрываўленыя людзі сталі з'яўляцца і на парозе бальніцы.

... Дзень 24 студзеня канчаўся. Пасля поўначы на дапамогу усць-усінцам прыбылі 15 стралкоў з Поле-Кур'і. Перавага сіл схілялася на бок тых, хто абараняўся. Адчуўшы гэта, паўстанцы адступілі: на дзесяці падводах рушылі ўверх па Пячоры. Адступленне больш нагадвала ўцёкі, і ўцёкі настолькі паспешныя, што большая частка паўстанцаў у розных канцах вёскі была кінута на волю лёсу. На наступны дзень усе астатнія жывыя паўстанцы ў саракаградусны мароз былі перад будынкам міліцыі пастаўлены на калені, рукі на патыліцы. На каленях жа іх прымусілі дапаўзці да КПЗ і турмы.

Позна ноччу з 24 на 25 студзеня пра паўстанне ў "Лесарэйдзе" стала вядома і ў наркамаце ўнутраных спраў Комі АССР. Ноччу ж у кабінеце наркома С.Кабакова быў скліканы ўвесь аператыўны састаў наркамата. На наступны дзень па ўказанню наркамата ва Усць-Усе быў устаноўлены каменданцкі час. А ва ўсіх населеных пунктах басейна ракі Пячоры на тэрыторыі рэспублікі былі арганізаваны пасты нагляду. Напрыклад, у Абезі на гэтую справу мабілізавалі нават школьнікаў. У іх ліку быў і вучань сёмага класа Алег Яфрэмаў, цяпер вядомы акцёр і рэжысёр (бацька Алега, Мікалай Іванавіч, адбываў тут тэрмін).

Самы строгі рэжым быў устаноўлены і ў лагерах. Каб сярод зняволеных улавіць нават шэпт, нават намёк аб паўстанні, была задзейнічана ўся лагерная агентурная сетка.

...Спешка пры адступленні паўстанцаў з Усць-Усы была справакавана крымінальнымі элементамі, якія далучыліся да паўстанцаў. Тыя паўстанцы, што засталіся і вырваліся наперад на чале з У.Піваваравым, рушылі на Кожбу. У тры гадзіны ночы ў вёсцы Акісь паўстанцамі быў насцігнуты абоз зброі для Варкуты. Да ўзбраення паўстанцаў дабавілася 18 вінтовак, 2 рэвальверы, 5 гранат, некалькі тысяч патронаў. Усяго на ўзбраенні атрада ў гэты час было 67 адзінак баявой зброі.

Раніцай 25 студзеня ўзброены атрад увайшоў у вёску Усць-Лыжа. Калі кіраўнікі паўстання пераканаліся, што пра іх рух усе ведаюць, усе дарогі адрэзаны, у другой палове дня атрад выйшаў з вёскі. Прайшоўшы 70 кіламетраў, наблізіліся да чумаў аленяводаў. А 26 студзеня ва Усць-Лыжу прыбылі першыя часці войскаў НКУС. Праз некалькі гадзін яны накіраваліся ў пагоню за паўстанцамі. Раніцай 28 студзеня пачаўся няроўны бой. Паўстанцы арганізавалі ў снежных акопах нядрэнную абарону. Бой ішоў каля 23 гадзін. Загінулі 16 ваеннаслужачых, сямёра атрымалі раненні, 75 чалавек былі моцна абмарожаны. У выніку часць, што перавышала ўдвая паўстанцкі атрад, адступіла з поля бою.

... Каля лясной хаткі паўстанцы сабраліся на сваю апошнюю нараду. Частка з іх, да канца змучаная, прапанавала спыніць барацьбу і здацца, але ўсё-такі вырашылі разбіцца на групы і ўцякаць на лыжах праз тайгу. Але зрабіць гэтага не паспелі. Дзве групы неўзабаве былі дагнаны. Была акружана і трэцяя асноўная група, у склад якой уваходзіў і Уладзімір Іванавіч. Пасля няроўнага бою тыя, хто застаўся ў жывых, былі ўзяты ў палон.

Але яшчэ доўга ў пячорскай тайзе знішчалі разрозненыя групы паўстанцаў. А пасля паражэння пачалася крывавая расправа. Забівалі жывых і дабівалі раненых, не шкадуючы нікога. У.Піваварай і кіраўнікі паўстання, якія засталіся ў жывых, былі дастаўлены ў сыктыўкарскую турму НКУС. На працягу двух месяцаў ішло следства. У допытах прымаў удзел сам нарком НКУС Комі АССР С.Кабакоў. Удзельнікам паўстання было прад'яўлена абвінавачанне па артыкулах 58-2, 8, 9 (узброенае паўстанне, здзяйсненне тэрарыстычных актаў, разбурэнне ці пашкоджанне з контррэвалюцыйнай мэтай) і па пастанове Асобай нарады пры НКУС СССР 30 сакавіка 1942 года 26 удзельнікаў паўстання, у тым ліку і У.Піваварай, былі расстраляны...

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

233

Члены Аб'яднанай яўрэйскай сацыялістычнай партыі і эсэры ад галасавання ўстрымаліся. Разам з упартай апазіцыяй яны складалі амаль палову Рады. У той жа дзень 25 сакавіка пасля перапыну з 7 да 12 гадзін пачалося паартыкульнае абмеркаванне трэцяй Устаўнай Граматы да народаў Беларусі. І нарэшце каля 3 гадзін дня яна была зацверджана.

25 сакавіка 1918 года Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася незалежнай дзяржавай, а Брэсцкі мірны дагавор касаваўся. Спрадвечная мара беларускіх барацьбітоў аб незалежнай беларускай дзяржаве, насуперак волі вялікіх дзяржаў, пачынала здзяйсняцца. І з гэтым ужо не маглі не лічыцца нават ворагі беларускай незалежнасці.

## 25.2. Вымушанае двоеўладдзе

**РЭАРГАНІЗАЦЫЯ РАДЫ БНР.** Пасля акта аб незалежнасці прадстаўнікі земстваў і гарадоў выйшлі з Рады БНР, бо не маглі адмовіцца ад свайго ідэала адзінай і непадзельнай Расіі. Ix месцы 12 красавіка былі аддадзены Беларускаму Прадстаўніцтву ў Мінску, якое складалася з гарадскіх домаўладальнікаў,ураднікаў, духавенства і паноў. Лідэрамі гэтага правацэнтрысцкага аб'яднання былі Раман Скірмунт, Аляксандр Уласаў, Павел Аляксюк. Сацыялістычная афарбоўка Рады адразу ж паблякла. Новыя радаўцы працівіліся нацыяналізацыі зямель і настойвалі на далейшым збліжэнні з немцамі.

234

**ПЕРАМОВЫ З ЛІТВОЙ.** Кіраўніцтва Віленскай Беларускай Рады, якое падпарадкоўвалася ўраду БНР, не выключала мажлівасці дзяржаўнага саюза з Літвой, якому маглі б паспрыяць немцы. На перамовах у Вільні з прадстаўнікамі Тарыбы (23 красавіка 1918) А.Луцкевіч, Д.Сямашка, кс. Станкевіч заявілі, што палітычным ідэалам беларусаў з'яўляецца адраджэнне Вялікага Княства Літоўскага як федэрацыі Літвы і Беларусі. Для існуючай БНР рыхтавалася падстрахоўка. Літоўска-Беларуская дзяржаўная супольнасць лічылася ў тых складаных умовах больш жыццяздольнай. Спрацоўвала і гістарычная настальгія, і прагматычны разлік на тое, што спадкаемная Вялікаму Княству Літоўскаму дзяржава будзе мець большую міжнародную падтрымку ды і выхад да мора. Але літоўскае кіраўніцтва мела іншыя намеры: падпарадкаваць Віленшчыну і Гродзеншчыну ды прадаставіць беларусам аўтаномію. Каб выжыць паміж Польшчай і Расіяй, малая Літоўская дзяржава імкнулася тэрытарыяльна пашырыцца за кошт земляў гістарычнага Вялікага Кряства Літоўскага. Прыхільнікі канфедэрацыі Беларусі і Літвы хоць і былі сярод літоўскіх палітыкаў, але перавагу ўсё ж мелі незалежнікі. Яны запрашалі прадстаўнікоў беларускага народа ў Тарыбу. Беларуская дэлегацыя не прыняла такіх прапаноў, але незалежнасць Літвы прызнала. І зрабіла гэта ў ліку першых.

**ТЭЛЕГРАМА ВІЛЬГЕЛЬМУ II І РАСКОЛ БСГ.** Берлін па-ранейшаму прытрымліваўся літары Брэсцкага трактата аб міры і разглядаў Бела-

235

русь як частку Савецкай Расіі. 25 красавіка 1918 года па ініцыятыве Рамана Скірмунта Рада БНР адправіла кайзеру Вільгельму II тэлеграму з падзякай за "вызваленне Беларусі ад чужацкага ўціску" і з просьбай дапамогі ва ўмацаванні дзяржаўнай незалежнасці і непадзельнасці краю ў саюзе з нямецкім рэйхам. Якраз напярэдадні, 23 красавіка, кайзер прызнаў незалежнасць Літоўскай Рэспублікі і перадаў ёй Віленшчыну. Аднак беларусам ні гэтае, ні іншыя намаганні ў справе юрыдычнага прызнання Германіяй БНР выніку не далі.

Тэлеграма кайзеру выклікала раскол Беларускай Сацыялістычнай Грамады, найбольш уплывовай партыі ў Радзе БНР. Многія грамадаўцы ўспрынялі гэты крок як здраду беларускай дэмакратыі, і ў гэтым абвінавачванні было больш эмоцый, чым цвярозай ацэнкі становішча маладой беларускай дзяржавы. Многія беларускія палітыкі ацэньвалі яшчэ тады падзеі з пазіцый Масквы, а не з пазіцыі незалежнай дзяржавы. Для тых жа, хто канчаткова пазбавіўся рабскай псіхалогіі, было ўсё роўна, да каго пасылаць тэлеграму, хоць да д'ябла, абы толькі голас беларусаў аб дзяржаўнай суверэннасці прагучаў на ўвесь свет. У мэтах умацавання беларускай дзяржаўнасці спроба аперцся на немцаў была слушнай.

**ПАРТЫЙНАЕ РАЗМЕЖАВАННЕ.** На месцы БСГ узніклі новыя партыі. Гэта Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р, эсэры), Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (БСДП, эсдэкі), Беларуская партыя сацыялістаў-федэралістаў (БПС-Ф, эсэфы). Усе яны

236

характарызаваліся левацэнтрызмам. Найбольш уплывовай была партыя эсэраў (лідэры Тамаш Грыб, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Мамонька), якая працавала сярод сялянства. Вядомыя эсдэкі Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Аркадзь Смоліч, Аляксандр Прушынскі (Алесь Гарун), Язэп Лёсік, браты Луцкевічы шмат рабілі для беларускага адраджэння, але заставаліся як бы штабам без арміі, вядома, прапелтарскай. Да эсэфаў належалі Язэп Варонка, Алесь Цвікевіч, Пётра Крэчэўскі, Васіль Захарка.

Правей іх стаялі група Паўлы Алексюка і Беларуская Хрысціянская Злучнасць, якія дзейнічалі з 1917 года. Сярод беларускіх клерыкалаў вылучаліся ксяндзы Вінцэнт Гадлеўскі (заснавальнік партыі), Аляксандр Астрамовіч, вядомы як паэт Андрэй Зязюля, Фабіян Абрантовіч, Адам Станкевіч, Кастусь Стэповіч, ён жа паэт Казімір Сваяк. Названыя партыі мелі сваіх прадстаўнікоў у Радзе БНР, што сведчыла пра яе вялікую дэмакратычнасць, але і пра небяспеку фракцыйнай барацьбы і расколаў.

**УРАДАВАЯ ЧАХАРДА.** У пачатку мая Сакратарыят пакінулі А.Смоліч, П.Бадунова, Т.Грыб, Л.Заяц. Прэм'ер Варонка падаў у адстаўку. Пакідалі сацыялісты і Раду БНР. Карыстаючыся гэтым, правацэнтрысты атрымалі ў беларускім парламенце большасць і сфарміравалі свой урад на чале з Раманам Скірмунтам. Новы урадавы крызіс распачаўся ў чэрвені. Правым і левым удалося дамовіцца аб стварэнні кааліцыйнага ўрада, які ўзначаліў Іван Серада. Старшынёй Рады БНР стаў Язэп Лёсік.

Захар ШЫБЕКА

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX – XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

237

**НАДЗЯЛЕННЕ ЎРАДА БНР ЭЛЕМЕНТАМІ РЭАЛЬНАЙ УЛАДЫ.** Не прызнаная Берлінам Рада БНР знайшла, на шчасце, паразуменне з камандуючым 10-й акупацыйнай арміі генералам Эрыхам фон Фалькенгайнам. Найперш ён згадзіўся дазволіць беларускай Радзе арганізацыю мясцовага апарату ўлады. Пастанова аб гэтым была апублікавана ўжо 27 сакавіка. А неўзабаве, 20 красавіка, Рада разаслала па вёсках, валасцях, гарадах, паветах і губернях загад аб стварэнні мясцовых рад -- выбраных органаў БНР і прынядці імі на сябе ўлады ад акупантаў. Выкананне загада ва ўмовах акупацыі ўскладнялася, але з 21 чэрвеня армейскае камандаванне пачало ўключаць у склад паветовых нямецкіх камендатур беларускіх дарадцаў, абраных урадам БНР. У кампетэнцыі Народнага Сакратарыята знаходзіліся гандаль, прамысловасць, асвета, сацыяльнае забеспячэнне, справы бежанцаў і іншае.

Беларускі ўрад дабіўся пэўнамоцтваў і ў галіне міжнародных адносін. Летам 1918 года праз нямецкае вайсковае камандаванне ён спрабаваў дабіцца ад ленінскага ўрада згоды на аб'яднанне з тэрыторыяй БНР усходніх раёнаў Беларусі, занятых расійскімі войскамі. З гэтай мэтай і дзеля прызнання БНР у Маскву ездзіла спецыяльная беларуская місія, але народны камісар замежных спраў Г.Чычэрын яе нават не прыняў. Затое БНР ахвотна прызналі найперш Украіна і Літва, а потым і Латвія, Эстонія, Фінляндыя, Чэхаславакія. Консульствы БНР адкрыліся ў Расіі, Германіі, Польшчы, Даніі і Турцыі (консул Іван Ермачэнка). Беларускія

238

палітыкі рабілі ўсё магчымае, каб абвясціць міжнароднай супольнасці аб існаванні незалежнай беларускай дзяржавы. Праўда, беларускі ўрад і мясцовыя органы працавалі пад наглядам нямецкіх акупацыйных улад.

Своеасаблівыя ўмовы двоеўладдзя прымушалі ўрад БНР засярodзіцца пераважна на культурна-асветнай дзейнасці ды на ўмацаванні нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.

## 25.3. Першы вопыт дзяржаўнай нацыянальнай палітыкі

**СІМВАЛЫ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ.** Самасцвярджэнню нацыі садзейнічаў ужо сам факт існавання беларускай дзяржавы. БНР выдавала сваім грамадзянам беларускія пашпарты, зацвердзіла свой дзяржаўны герб -- "Пагоню" і свой дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг. Выпрацоўкай дзяржаўных сімвалаў займалася спецыяльная ўрадавая камісія на чале з беларускім прэм'ерам Язэпам Варонкам. У склад гэтай камісіі ўваходзіў і такі аўтарытэтны навуковец, як прафесар Мітрафан Доўнар-Запольскі. Нават у Адэсе ў кастрычніку 1918 года вялікая колькасць беларусаў выказала жаданне стаць грамадзянамі БНР.

**МОВА І ПАТРЫЯТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ МОЛАДЗІ.** 12 красавіка Народны Сакратарыят БНР прыняў пастанову аб абвяшчэнні беларускай мовы дзяржаўнай і абавязковай для грамадзян рэспублікі. Намаганнямі Б. Тарашкевіча, А.

239

Луцкевіча, Я. Лёсіка, Я. Станкевіча распрацоўваліся яе правапіс і нормы граматыкі, пашыралася беларуская тэрміналогія. У маі па ініцыятыве Беларускай вучнёўскай грамады заснавалася таварыства беларускіх сагайдакаў (байскаўтаў) з мэтай фізічнага і нацыянал-патрыятычнага выхавання навучэнцаў. Тады ж узнікла і такая юнацкая арганізацыя, як "Беларуская студэнцкая раніца". Сваю задачу яна бачыла ў выхаванні нацыянальных інтэлектуалаў.

**РЭЛІГІЙНАЕ ПЫТАННЕ.** Традыцыйна балючым месцам беларускага адраджэння быў канфесійны антаганізм паміж каталікамі і праваслаўнымі. Пасля ўтварэння БНР з гэтай недарэчнасцю ўпершыню барацьба пачала весціся на дзяржаўным узроўні. Беларускі ўрад імкнуўся прыцягнуць на свой бок найперш духавенства. Нацыянальная самасвядомасць паступова ахоплівала і ксяндзоў, і папоў. Яшчэ ў пачатку 1917 года заснаваны ў Мінску Саюз ксяндзоў-беларусаў налічваў каля 200 чалавек. Тады ж тагачасны Беларускі Нацыянальны Камітэт і пачаў барацьбу за выкарыстанне ў касцёлах беларускай мовы. А ў 1918 годзе гэта ўжо рабілася ў многіх месцах. Праваслаўныя свяшчэннікі-беларусы таксама пачалі гуртавацца ў 1917 годзе. Улетку яны правялі свой з'езд у Маскве. Прысутнічала каля 800 святароў, многія з якіх раней служылі ў Віленскай і Гродзенскай губернях, але былі вывезены адступаючай расійскай арміяй.

Папы, у адрозненне ад ксяндзоў, не мелі ні сваёй партыі, ні сваёй газеты, але прыхільнікі беларускага адраджэння знаходзіліся і сярод

240

іх. У 1918 годзе на Беларусі з'явіліся прыходы, дзе пропаведзі чыталіся на беларускай мове. Айцец Андрэй Карніловіч, свяшчэннік Хонаўскай царквы Вілейскага павета ўклаў цэлы зборнік пропаведзяў у беларускай мове. Святар В. Раманаў выдаў у 1918 годзе ў Мінску перакладзеную на беларускую мову царкоўную кніжку "Першыя малітвы і пазнанне праваслаўнай веры". Спагадліва ставіўся да БНР і архіепіскап Мінскі і Тураўскі Георгій. Ён згадзіўся супрацоўнічаць з беларускім урадам у справе вяртання на радзіму эвакуіраваных святароў і царкоўнага дабра.

Асаблівая патрэба ў праваслаўных свяшчэнніках адчувалася ў раёнах "старой акупацыі", на Віленшчыне і Гродзеншчыне, дзе пазакрываліся цэрквы і ўзмацнялася паланізацыя беларусаў праз касцёлы. Большасць ксяндзоў пра беларускую мову не хацелі і слухаць. Калі раней толькі паляні ўсіх каталікоў, у тым ліку і беларусаў, залічвалі да сваёй нацыі, то з атрыманнем дзяржаўнасці тое ж самае пачалі рабіць і літоўцы. Усе каталікі Віленска-Гродзенскага краю сталі для іх, калі не паўнапраўнымі літоўцамі, дык літоўцамі па паходжанню. Каб аслабіць анексіяніцкія памкненні з боку польскага і літоўскага духавенства, урад БНР дабіўся таго, што летам са згоды немцаў у межах "старой акупацыі" пачалі аднаўляцца праваслаўныя прыходы. 1 кастрычніка ў Мінску адкрылася каталіцкая семінарыя, якая рыхтавала святароў-беларусаў. Яе рэктарам стаў доктар філасофіі Фабіян Абрантовіч -- шчыры беларус. Актыўны ўдзел у нацыянальных справах віленскіх беларусаў прымалі ксяндзы Уладзіслаў Талочка і Ян Семашкевіч.

# ЁН ЛЮБІЎ МАЛЯВАЦЬ КОНЕЙ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Разам з ім вучыліся В. Якаўлеў, Заўялаў, П. Корын. Неўзабаве пераехалі ў Маскву і бацькі К. Геда: у гэты горад Мікалай Мікалаевіч атрымаў службовае прызначэнне.

Ў час першай сусветнай вайны Канстанцін Геда быў у студэнцкім санітарным атрадзе, які арганізаваў маскоўскі купец (прозвішча невядомае). Скончыў вучылішча мастак толькі ў 1918 годзе, а хутка сям'я Геда вярнулася ў добра знаёмы Магілёў, дзе Канстанцін Мікалаевіч некаторы час выкладаў маляванне. Сябра Саюза мастакоў з 1918 года, К. Геда нейкі час выконваў заказы арганізацыі, малюючы ўсё тых жа коней. Шмат зрабіў для Магілёўскага гістарычнага музея, стварыў шэраг прац гістарычнай, батальнай тэматыкі. Праўда, у Вялікую Айчынную вайну гістарычны музей у Магілёве згарэў, таму не захаваліся і працы К. Геда.

У 1939 годзе мастак выканаў пано вельмі вялікіх памераў, на якім быў намаляваны конскі табун. Прызначаўся твор для 1-й Усесаюзнай сельскагаспадарчай выставы, што працавала ў Маскве.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, К. Геда заставаўся ў Магілёве. Па-ранейшаму маляваў.

Пакінуў радзіму Канстанцін Геда ў 1944 годзе. У 1945–1948 гадах з сям'ёй (жонкай, двума дзецьмі -- хлопчыкам і дзяўчынкай) знаходзіўся ў Аўстрыі, жыў у Зальцбургу. У той перыяд выканаў шмат дэкарацый, прызначаных для рускага бежанскага тэатра. Няўмольны лёс гнаў К. Геда далей на чужыну: напрыканцы 1948 года мастак з групай рускіх бежанцаў прыехаў у Аргенціну. Жыў у Буэнас-Айрэсе. Зарабляў маляваннем. Адсутнасць матэрыяльных сродкаў часта вымушала К. Геда пісаць карціны выключна на продаж. Асаблівай папулярнасцю, попытам карысталіся найперш творы з выявамі коней і коннікаў -- аргенцінскіх пастухоў (гаўча). Многа ўдалых, па-майстэрску напісаных прац мастака добра раскупляліся. Цяпер імі валодаюць аргенцінскія багацеі. У прыватных калекцыях можна знайсці, відаць, большасць карцін К. Геда.

Жывапісец і графік Канстанцін Геда выказваў сябе ў розных жанрах выяўленчага мастацтва. Нязменна захоўваючы аддачнасць рэалістычнай манеры, абранай яшчэ ў юнацтве, мастак маляваў, пісаў і партрэты, і краявіды. Партрэтыст, баталіст, аніталіст, К. Геда асаблівую ўвагу ўдзяляў некалькім тэмам. Малюючы аргенцінскія краявіды, заўсёды цікавіўся гісторыяй. Праз рэаліі жыцця новай і чужой для К. Геда краіны часта праступалі любоў да родных мясцін, перайманне традыцый рускага жывапісу. У 1953 годзе ў Буэнас-Айрэсе, у галерэі Ван Рыэль, адбылася персанальная выстава твораў Канстанціна Геда.

Адной з безумоўна ўдалых прац мастака стаў шэраг графічных ілюстрацый да гістарычных раманаў вядомага рускага пісьменніка-эмігранта М. Карацеева "Ярлык Вялікага хана", "Карач-Мурза", "Жалезны кульгавы". Самымі ўдалымі ў К. Геда атрымаліся малюнкі (выкананыя тушшу) да рамана "Ярлык Вялікага хана". З ілюстрацыямі К. Геда на эміграцыі зроблена чарговае выданне рамана. Пісьменнік М. Карацееў лічыў мастака найлепшым ілюстратарам свайго рамана.






Канстанцін Геда памёр у Буэнас-Айрэсе 6 сакавіка 1977 года. Па смерці мастака засталіся працы, раскіданыя па шматлікіх прыватных калекцыях Аргенціны. Частку палотнаў, малюнкаў захоўваюць дачка К. Геда, музыказнавец Ірына Геда і ўдава пісьменніка М. Карацеева. У 1990 годзе І. Геда была ў Расіі. Яна падаравала скарбы сям'і Геда -- працы свайго бацькі, іншых мастакоў (у прыватнасці, П. Брулова) -- рускім музеям: Дзяржаўнаму музею Л. Талстога, Дзяржаўнаму музею выяўленчага мастацтва імя А.С. Пушкіна. І Савецкі фонд культуры, што цяпер мае назву Расійскага міжнароднага фонду культуры, мае творы К. Геда.

Мастак марыў пра вяртанне на Радзіму. У Расію вярнуўся творчасцю. Але ў закінутым стане даследаванне сувязей К. Геда з Беларуссю. Значыць, чакае свайго часу зварот Канстанціна Геда ў Беларусь.

**P.S.** Няпоўны спіс прац К. Геда, якія ёсць у наяўнасці ў Расіі:
1. Малюнак "Л.М. Талстой з канём".
2. Ілюстрацыі да раманаў М. Карацеева "Жалезны кульгавы" і "Ярлык Вялікага хана".
3. ?

Зацікаўленасць рускіх экспертаў творчасцю мастака К. Геда выглядае небеспадстаўнай.

**Святлана САЧАНКА.**

**НА ЗДЫМКАХ: Канстанцін ГЕДА за работай; вокладка кніжкі "Ярлык Вялікага хана", ілюстрацыю да якой зрабіў Канстанцін Геда.**

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# БАРАНІ, ПАЭЗІЯ, ГРАМАДЗЯНСКАСЦЬ!

Выразна беларускага паэта Сяргея Панізьніка адкрыў для сябе ў Львове. Вучыўся тады на факультэце журналістыкі вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча. Нядаўняму вясковаму школьніку не надта ў галаву лезлі ўсялякія ідэалагічныя "ізмы" (хаця па сённяшнім часе і шкадую, што не навучыўся тады ўнікліва чытаць творы класікаў марксізму-ленінізму. І іх веданне -- навука. Іншая справа, як да ўсяго гэтага ставіцца). Таму стараўся адпрасіцца ў грозных сяржантаў з самападрыхтоўкі ды пайсці ў музей ваеннага друку. Быў такі на кафедры журналістыкі. Разбіраў там зваленыя ў кучу газеты, часопісы, кнігі. Захапіўся тэмай падпольнага і партызанскага друку. Пачаў і сам весці сякі-такі пошук.

І сярод іншых матэрыялаў натрапіў у музеі на кніжку вершаў на беларускай мове. Для мяне гэта было адкрыццём. З беларускіх друкаў у Львоў, у вучылішча, хіба што прыходзіла разам з маёй карэспандэнцыяй пухавіцкая раённая газета, якую бацькі стараліся адпраўляць штонумар. І мо яшчэ -- кнігі вершаў ад знаёмых паэтаў Сяргея Законнікава, Алеся Разанава, Алеся Емяльянава. Ды раптам -- "Палявая пошта" Панізніка (тады, канешне ж, прозвішча яго пісалася без мяккага знака). Кнігу чытаў, адкрыўшы невядомае, да свайго сораму, паэтычнае імя многа разоў. Пасля пачалося ліставанне з самім паэтам. Потым ужо -- і больш ад чужых людзей, чым ад самога Сяргея Сцяпанавіча, -- даведаўся пра драматычны лёс паэта. Сёння біяграфія Панізьніка адкрытая перад многімі. Да 50-годдзя паэта сябры -- руплівцы адраджэння шмат што расказалі шырокаму чытачу. Не буду паўтарацца. Ды і нагода іншая: новая кніжка вершаў "А пісар земскі..."

Чаму ж тады ўспомніў Львоў і тую, другую кніжку, падараваную паэтам вучылішчнаму

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

## ПАМЯЦІ Міколы РАВЕНСКАГА

**Пляткарам не прыбіць да зубоў языкі,**
**Не заўважыць змяю пад калодай...**
**Ах, як лёгка,**
**як проста**
**ляпіць ярлыкі!**
**Не,**
**не проста ляпіць!**
**З асалодай.**

**Гэта справа**
**не кінута на самацёк!**
**Дырыжорчыкі**
**доўбняй махаюць!**
**-- Ён уцёк!**
**Ах, уцёк!**
**Дык чаго ж ён**
**уцёк!!**
**Ні з таго,**
**ні з сяго**
**не ўцякаюць!**

**Раз уцёк,**
**значыць вораг,**
**з таго,**
**і з сяго!**
**Значыць**
**здраднік!**
**Такіх не шануюць!**
**І цудоўныя,**
**светлыя**
**творы яго**
**Столькі год**
**па Радзіме сумуюць.**

**Ды хіба ж ён адзін**
**сумнай птушкай з гнязда...**
**Ды хіба ж аднаго**
**праклiналі...**
**Ад далёкіх часоў,**
**ад Ісуса Хрыста,**
**Самых лепшых**
**заўжды**
**распіналі!**

**Толькі хочацца верыць,**
**што скончыўся час,**
**Час**
**крывава-прыгоннага**
**права!**
**І ўваскрэснуць з крыжоў,**
**каб вярнуцца да нас,**
**Нашы**
**гонар,**
**і годнасць,**
**і слава!**

# "СУСТРЭЧЫ КУЛЬТУР" У ЛЮБЛІНЕ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

Аднолькава чароўны (калі казаць пра прыгажосць) быў і другі паэт, хаця не жывапісец, Леанід Дранько-Майсюк. Ягоныя вершы, прысвечаныя, галоўным чынам, жанчыне, а ўласна кажучы, многім жынчынам, выклікалі жывое зацікаўленне. Пасля патэтычна сказаных паэтам радкоў: "Пані Дарота...", "Аню..." і гэтак далей выступіў з цалкам празаічным запытаннем адзін са слухачоў. Малады чалавек спытаўся Дранько-Майсюка, ці ягоныя творы -- гэта вынік яго ўласнай практыкі, ці толькі мараў? Пытанне гэтае выклікала хвалю смеху з боку іншых слухачоў і збянтэжанасць з боку аўтара. Дранько-Майсюк пачаў супраціўляцца названню яго Дон-Жуанам, але ў рэшце рэшт прызнаў сябе вінаватым, кажучы, што любоў да жанчыны -- сапраўды найважнейшая ідэя ў ягоным жыцці.

З зацікаўленнем глядзелі мы, усе прысутныя, на пастаўлены беларускім тэатрам аднаго акцёра "Зніч" спектакль паводле Уладзіміра Караткевіча -- "Дабравесце ад Уладзіміра". Рэжысёр і сцэнограф п'есы -- Уладзімір Матросаў і адзіны выканаўца -- вельмі здатны, на мой погляд, акцёр Валеры Шушкевіч; кампазітар цудоўнай музыкі -- Алег Залётнеў. Змест у палове гістарычны, у палове алегарычна-рэлігійны. Можна было даглядзецца тут таксама элементаў фальклору. Усё разам -- цікавая п'еса аб нацыянальнай тоеснасці беларусаў. А для непадрыхтаванага ў сферы беларускай мовы і культуры гледача быў гэты спектакль таксама проста смешны. Зрэшты, гумар быў, мне здаецца, прынамсі часткова прадугледжаны рэжысёрам.

Менш цікава выпала спатканне з галоўным сакратаром Беларускага цэнтра МТІ (Міжнароднага тэатральнага інстытута) -- Антанінай Міхальцовай і Вацлавам Валадзько -- працаўніком Міністэрства культуры Беларусі. Некалькі павярхоўных сказаў аб беларускім тэатры ўчора і сёння, прэтэнзіі да палякаў, што мала цікавяцца беларускай драматургіяй, кароткая спрэчка ў справе Міцкевіча і спроба з боку аднаго са слухачоў звергнуць міф аб пакрыўджанні беларусаў як з боку расійцаў, так і палякаў.

Больш зацікаўлення выклікаў у гледачоў запісаны на відэастужцы, хаця без аднаго слова на беларускай ці на якой-небудзь іншай мове, спектакль "Запіскі вар'ята" -- лаўрэат "Гранд Прыкс" на І Міжнародным фестывалі тэатраў аднаго акцёра ў Мінску ў 1993 годзе.

Абыду маўчаннем выступленне тэатральнага крытыка - Жанны Лашкевіч, таму што пасля трох гадзін вечарыны не хапіла мне, як, зрэшты, большасці прысутных, стойкасці слухаць яшчэ і той выклад.

Аднак каб ніхто не зразумеў мяне дрэнна: я з усяго сэрца падтрымліваю ідэю "Сустрэч культур". А ўсялякія большыя ці меншыя спрэчкі, па-мойму, натуральныя пры сутыкненні дзвюх неаднолькавых жа нацый і культур.

**Барбара ГУРА.**

Люблін.

музею? Відаць, таму, што і тады, і сёння, адкрываючы новыя вершы Сяргея Панізьніка, перачытваючы старыя, даўно знаёмыя яго творы, заўжды вызначаеш як стрыжань адну, найгалоўнейшую рысу паэзіі дбайнага збіральніка народнага чыстага слова. І гэты стрыжань ёсць не што іншае, як грамадзянскасць, улюбёнасць у родны край, высокі патрыятычны дух. Абаронцы паэзіі чыстай красы часам гатовыя ўшчэнт знішчыць верш-заклік, верш-боль, але ж прыгажосць, высокая культура не нараджаюцца з нічога. Яны патрабуюць самаахвярнасці, узнёслага і захопленага служэння Радзіме, Бацькаўшчыне, народу. А якраз гэта не спалучаецца з высокімі словамі-дэкларацыямі ў штодзённай працы. Там хутчэй -- чорныя высілкі. Затое ж без гэтых слоў-дэкларацый, без заклікаў (калі па шчырасці!) не абыдзешся ў роспавядзе пра цяжкія будзённыя клопаты ў імя Беларусі.

Пра што б ні пісаў Сяргей Панізьнік -- вершы яго натхняюць, прымушаюць задумацца аб сваім уласным месцы ў лёсе Айчыны. Тут ужо не праходзяць самаапраўданні накшталт гэтага: "Што я значу, пясчынка?.." Канешне, нічога, калі маўчаць, калі згінаць голаў. А калі думаць, разважаць, задавацца пытаннямі... Як, прыкладам, у вершы "Катэхізіс":

**-- Што робіш, беларус!**
**-- Іду нягеглы, хілы**
**дарогай, дзе стаяць**
**Дубок, Бяроза, Клён...**
**Так хочацца сказаць,**
**пра што маўчаць магілы,**
**злучыць сваё імя**
**з мільёнамі імён.**

**-- Што бачыш, беларус!**
**-- Выходжу з сутарэння...**
**Я сам каваў кляймо**
**для сэрца, галавы...**
**Ішлі ва ўслугачы,**
**ў каго было натхненне;**
**ў каго была любоў --**
**праглядваюць з травы.**

Пошук нацыянальна-гістарычных вытокаў уласцівы паэзіі Сяргея Панізьніка, пачынаючы з першай яго кнігі ("Кастры Купалля" --1967 год). След заўважыць, што тая першая пастаўка сталася прыкметнай з'явай беларускай паэзіі напрыканцы шасцідзесятых. У 1967 годзе Сяргея Панізьніка прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. А з рэцэнзіямі на "Кастры Купалля" выступілі Сымон Блатун, Уладзімір Гніламёдаў, Вячаслаў Рагойша.

Паэт -- уважлівы вандроўнік па беларускай зямлі ў розных часавых прасторах. Але ж паэтычны радок Панізьніка ні ў якім разе не ілюстрацыя да навакольных калізій. Аўтар кнігі "А пісар земскі..." -- увесь у трывозе. Паэт запрашае і нас да суперажыванняў:

**Жыццё -- нішто! А я**
**ў сябе спытаю:**
**"Вунь вораг мой --**
**маё сумленне. Спіць!.."**

**Старонкі дзён атрутныя**
**гартаю,**
**Шкадую я уласнай долі ніць!**

**Хто абароніць гены --**
**фараоны!**
**Хто пашкадуее род --**
**функцыянер!**

**Для абароны ёсць**
**карэнні, кроны...**
**І я! І я! Павер, Зямля, павер.**

Ад старонкі да старонкі праходзіць у зборніку "А пісар земскі..." тэма трагедыйнасці, ахвярнасці, пакут беларускага народа. Сяргей Панізьнік піша аб гэтым востра, імкнецца зазірнуць у нутро катавальняў, выразнымі мастацкімі фарбамі адлюстраваць ката. А то ж у нас часта ў бок апошняга пазіраюць (і паэты таксама) сарамліва-спуджана. Ды ці толькі ж паэты з цёмнымі шорамі на вачах?!

**Гляджу на вітрынную згоду:**
**бязвінны Сувораў...**
**Кульнёў...**
**Музей пакарэння народаў!**
**Музей пагашэння агнёў!**
**Пасведчаць канфедэраты,**
**Паўстанец Касцюшкі кіўне:**
**Сувораўскія маршатрады**
**расстрэльвалі і мяне.**

Дарэчы, позірк на сучаснасць праз судакрананне з гісторыяй, праз уласнае пераасэнсаванне мінуўшчыны прыйшоў у творчасць Панізьніка даўно. Пра гэта ў некаторай ступені гавораць нават самі назвы папярэдніх кніг паэта -- "Чало і век", "Жыцень", "Стырно". Ёсць у іх, выразна адчуваецца дух спрадвечнасці, блізкасці да мінулых пакаленняў.

Але ў гістарычна-грамадзянскай праніклівасці паэт не жывіцца дэкларацыйным характарам вершаванага слова. Да ўзнёсласці і публіцыстычных абагульненняў Панізьнік ідзе праз паглыбленне ў роднае, у добра знаёмае яму. Многія вершы, відавочна па ўсім, прынесены і ў кнігу "А пісар земскі..." з роднай Віцебшчыны, з любай сэрцу паэта Міёршчыны. Праўда, і ў аповядзе пра родны край Панізьнік не можа пазбавіцца грамадзянскага, сацыяльнага асэнсавання. Як, прыкладам, у вершы "Спадкі Заходняй Беларусі":

**-- Камянёў тут -- хоць забіся,**
**а вады -- ну хоць заліся...**
**Прыкупіўшы хлеба --**
**можна жыць.**
**Сеялі і малацілі...**
**Раптам нас "асвабадзілі",**
**на прыгон штодня**
**прымусілі хадзіць...**

Услед за паэтам, перажываючы за свой, бацькоў і дзядоў час, адчуваеш, як "пустадомна ў зацiснутай душы".

Неяк асобна стаіць у новай кнізе Панізьніка раздзел, што складаецца з трох дыярыушаў. Кожнаму з гэтых вершаваных "сшыткаў" папярэднічае прывязанасць паэта да пэўнай вандроўкі. І ў кожнага з дыярыушаў -- свая настраёвасць. Найбольш уражвае першы ў іх радзе -- "На трэцяй планеце ад Сонца". У гэтым дыярыушы -- вандроўка Панізьніка па Беларусі ў часавай прасторы. У адно спалучаецца грамадзянскасць і філасафічнасць паэта.

**Эпалеты! Не!**
**Цяпер бронежылеты --**
**камунізму**
**ашчаперaны заслон.**
**Гэкачэпы самі трапілі ў палон.**
**З Ільічовым**
**безнадзейным запаветам**
**У палоне і на цукар мой талон.**

**Партбілеты...**
**Пастулаты... Пісталеты...**
**З Курапатамі ГУЛАГі заадно.**
**У імперыі прасіцілася дно.**
**Але прэцца на арэну**
**новых бедаў**
**Кумачовае гнілое палатно.**

Так, часам падаецца, што публіцыстычнасць бярэ ўладу над мастацкімі зярнятамі паэзіі. Але э гэтага ад слова беларускага вымагае сам час. Яму паэт-грамадзянін Сяргей Панізьнік не здраджвае ніколі. Бо ў першаснове яго паэзіі -- крынічная, народная праўда жыцця.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*НЕВЯДОМАЕ ПРА Міхала РУКЕВІЧА*

# ПАБРАЦІМ ДЗЕКАБРЫСТАЎ

Войскі Літоўскага асобнага корпуса былі створаны загадам цара Аляксандра I у 1815 годзе з мэтай прадухілення любых рэвалюцыйных выступленняў супраць царызму ў адной з "небяспечных" частак імперыі. Размяшчаліся яны ў пагранічных з Каралеўствам Польскім Віленскай, Гродзенскай, Мінскай і Падольскай губернях і ў Беластоцкай акрузе і маглі быць хутка кінуты на "подавление" любых мяцежнікаў. Таму надзвычай важнай задачай для ўсіх рэвалюцыйных сіл, у тым ліку для філаматаў і дзекабрыстаў, было перацягнуць на свой бок афіцэраў і салдат корпуса.

Важным момантам у дзейнасці Таварыства ваенных сяброў было тое, што яно не замыкалася ў вузкім коле вайскоўцаў, а ўцягвала ў свае шэрагі і цывільных, розныя слаі грамадства. Неўзабаве яно далучыла да сябе "Заран" і іншыя арганізаваныя Рукевічам згуртаванні, у якія ўваходзілі навучэнцы гімназій, службоўцы, перадавая шляхта.

Кіраўнічы камітэт Таварыства ваенных сяброў часта збіраўся ў доме Рукевіча ў Завыках, куды двух членаў гэтага згуртавання капітана Ігельстрома і яго стрыечнага брата паручніка Вегеліна прыцягвала акрамя ўсяго шчырае каханне да прывабных Рукевічавых сясцёр -- Карнеліі і Ксаверыі.

Сваёй структурай і праграмай Таварыства ваенных сяброў нагадвала Таварыства філаматаў: вядома, яго вопыт прынёс сюды Міхал Рукевіч. Ён жа, вядома, складаў і праграмныя дакументы таварыства, "правілы", якія зноў жа нагадваюць філамацкія. "Ваенныя сябры" мелі на мэце ўцягнуць у сваю канспіратыўную арганізацыю самыя шырокія колы афіцэрства Літоўскага асобнага корпуса, з тым каб згуртаваць рэвалюцыйныя сілы на звяржэнне царскага самадзяржаўя.

Як паказваюць гісторыкі, Таварыства ваенных сяброў было звязана з дзекабрысцкімі арганізацыямі Расіі. На сувязь "ваенных сяброў" з дзекабрыстамі паказвае і факт аператыўнай падтрымкі імі паўстання на Сенацкай плошчы ў Пецярбургу 14 снежня 1825 года. "І праўда, -- заўважае ў сваёй кнізе "Декабристы и польское национально-освободительное движение" П.Алшанскі, -- не паспеў яшчэ новы імператар Мікалай I ачнуцца ад узрушэння, выкліканага паўстаннем на Сенацкай плошчы, як у Пецярбург прыляцела новая страшная вестка: салдаты і афіцэры аднаго з падраздзяленняў Асобнага літоўскага корпуса — Літоўскага піянерскага батальёна — узбунтаваліся і адмовіліся прысягаць новаму манарху. Тое, што гэты бунт адбыўся ўслед за паўстаннем у Пецярбургу і амаль адначасова з паўстаннем Чарнігаўскага палка, дазваляе паставіць пытанне пра ўзаемадачыненні гэтых падзей. Нездарма ж урад Мікалая I адразу ж пачаў шукаць ніці, што звязвалі гэтыя рэвалюцыйныя цэнтры".

"Ваенныя сябры" яшчэ не паспелі ахапіць сваім уплывам іншыя часці Літоўскага асобнага корпуса, і таму іх мужнае выступленне супраць царызму не знайшло там шырокай падтрымкі. У выніку ўсе арганізатары былі арыштаваны і аддадзены ваеннаму суду так званага Аўдытарыяцкага дэпартамента Літоўскага корпуса. Гэты дэпартамент у сваёй заключнай пастанове пералічыў усе абвінавачванні "ваенных сяброў". Міхал Рукевіч, напрыклад, абвінавачваўся ў тым, што быў "побудительной причиною поселившейся мысли в капитане Игельстроме, подпоручике Гофмане и рядовом Трембецком к заведению и усовершенствованию между военными офицерами тайных обществ, содействуя им своими советами к распространению таковых, но не принадлежа к оным сам лично, управлял ими; что в половине декабря 1825 года за десять дней до получения о присяге повеления поселил мысль в Игельстроме к возмущению части войск Литовского отдельного корпуса на неучинение верноподданнической присяги, для чего советовал Игельстрому послать в полки своих товарищей..."

Пасля скрупулёзнага пераліку абвінавачванняў "ваенным сябрам" быў аб'яўлены такі вось суровы прысуд: "Военный суд, соображаясь с законами, приговорил:

капитана Игельстрома, поручика Вегелина и подпоручика Петровского, лишив чинов и дворянского достоинства, повесить;

шляхтича Михаила Рукевича, лишив дворянского достоинства, казнить смертию;

подпоручика Гофмана лишить чинов и дворянского достоинства, потом его, ровно и рядового Угричич-Требинского, казнить смертию..."

Акрамя названых яшчэ сем бунтаўшчыкоў загадвалася "казнить смертию" альбо "лишить дворянства и живота".

Але князь Канстанцін у сваім прадстаўленні цару Мікалаю I пастановы Аўдытарыяцкага дэпартамента прапанаваў замяніць смяротную кару "ваенным сябрам" на 15--20-гадовую катаргу і далейшае пасяленне ў Сібіры. Цар жа ў сваю чаргу яшчэ "всемилостивейше" змякчыў яе, асудзіўшы іх на 10 гадоў катаргі і пасяленне.

Магчыма, змякчэння такога не было б, калі б сястра Рукевіча і нявеста Вегеліна Ксаверыя не здагадалася загадзя спаліць усе паперы "ваенных сяброў". За гэта яе прысудзілі адправіць на цэлы год у манастыр, а яе сястру Карнелію, нявесту Ігельстрома, якая садзейнічала ёй, --- на паўгода.

І вось беларускія дзекабрысты пагрымелі сваімі кайданамі на сібірскую катаргу. Першага адпраўлялі апранутага ў арыштанцкую вопратку, закутага ў кайданы завадатара Таварыства ваенных сяброў Міхала Рукевіча, за ім -- усіх астатніх.

У пачатку 1828 года калоднікаў даставілі ў Іркуцк, а праз колькі тыдняў -- у халодную і непрытульную Чыту. Тут "ваенныя сябры" трапілі ў спагадныя абдымкі герояў 14 снежня 1825 года. Мікалай I вырашыў не раскідваць дзекабрыстаў па розных заводах, бо там яны пачыналі бунтаваць людзей, а сабраць у адно месца. Таму з нерчынскіх руднікоў іх перавялі ў Чыту і парастасоўвалі па цесных казематах тамашняга астрога. Камеры былі там забіты імі да адказу. У кожнай трымалі па восем і болей чалавек. У такія камеры да рускіх рэвалюцыянераў трапілі і браты-беларусы. З гэтага часу і да канца катаргі яны дзялілі паміж сабой і гора, і скупенькія радасці, якія зусім не часта траляліся на катарзе.

Славутыя сыны Расіі Мікіта Мураўёў, Сяргей Трубяцкой, Сяргей Валконскі, Мікалай і Міхаіл Бястужавы, Васілій Давыдаў, Міхаіл Фанвізін, Мікалай Лорэр, Міхаіл Лунін, Аляксандр Адоеўскі, Іван Якушкін, Іван Гарбачэўскі і многія іншыя таварышы па няволі сталі і сябрамі Міхала Рукевіча і яго паплечнікаў.

Рускія сябры цанілі Міхала Рукевіча за вясёлы нораў, за ўменне пераносіць цяжкасці свайго жыцця. Ужо ў першы дзень з'яўлення Рукевіча ў Чыцінскім астрозе гэтыя яго якасці заўважылі дзекабрысты і іх жонкі, якія жылі побач з астрогам. Напрыклад, княгіня Валконская ў сваіх "Запісках" успамінала, як "М.Рукевіч прымушаў нас многа смяяцца сваімі чыста сармацкімі выхадкамі. Ледзь паспеў ён увайсці ў астрог, насупраць дома Александрыны (Аляксандры Рыгораўны Мураўёвай. -- **К.Ц.**), як стаў каля агароджы і з сентыментальным выглядам (і з моцным польскім акцэнтам) запеў стары французскі раманс: "В стенах мрачной кельи младой король томится" (на французскай мове. - **К.Ц.**). Ён не быў ні малады, ні прыгожы, гэты намер спяваць французскі раманс, не ведаючы мовы, нас вельмі насмяшыў".

Дарэчы, Марыя Мікалаеўна Валконская вельмі блізка да сэрца прыняла спробу Вегеліна пакончыць жыццё самагубствам. Яна памагла яму звязацца з нявестай Ксаверыяй Рукевіч, сама наладзіла перапіску з сёстрамі Рукевіча. У адным з пісем да старшай, замужняй сястры Рукевіча Антаніны Крамоўскай, што жыла ў Беластоку, княгіня Валконская выказала нават прапанову прыехаць яе сёстрам Ксаверыі і Карнеліі да сваіх жаніхоў у Сібір. Невядома, як бы яны гэта ўспрынялі, каб пісьмо дайшло да іх -- яно было перахоплена жандарамі, якія прачытвалі пошту дзекабрыстаў.

На катарзе, нягледзячы на нечалавечыя ўмовы, дзекабрысты не падалі духам. Яны нават наладзілі самаадукацыю. Вывучалі розныя навукі, мову. Балазе "выкладчыкаў", высокаадукаваных людзей, сярод іх было хоць адбаўляй. Міхал Рукевіч вучыў дзекабрыстаў лацінскай і польскай мовам. Сярод яго "вучняў" быў, напрыклад, Міхаіл Бястужаў. З ім, а таксама з яго братам Мікалаем Бястужавым, якога Герцэн назваў "адным з лепшых, адным з энергічных дзейных асоб вялікай змовы", Міхал Рукевіч быў у блізкіх адносінах. Гэта дзякуючы яму, Мікалаю Бястужаву, які зрабіў цэлую галерэю партрэтаў дзекабрыстаў, мы сёння можам бачыць адзіны партрэт Рукевіча.

У 1830 годзе дзекабрыстаў перавялі ў другую, толькі што адбудаваную для іх, а правільней сказаць, недабудаваную турму пры Пятроўскім заводзе -- за 630 вёрст ад Чыты. Асаблівасць гэтай турмы была ў тым, што ў ёй адсутнічалі вокны. У камерах было душна і цёмна. Іх назвалі "цёмнымі стойламі Пятроўскага каземата", "магіламі".

У гэтых "магілах" праходзілі год за годам. Нечакана для тых дзекабрыстаў, якім было прысуджана дзесяць і менш гадоў катаргі, прыйшла "вольная": цар Мікалай I "по случаю восприятия из святой купели новорожденного четвертого любезнейшего сына нашего, великого князя Михаила Николаевича" і "желая явить новый опыт милосердия к участи помянутых государственных преступников", падпісаў 8 лістапада 1833 года ўказ аб скарачэнні ім тэрміну катаргі. Сярод вызваленых ад катаржных работ былі і "ваенныя сябры" -- Міхал Рукевіч, Канстанцін Ігельстром, Аляксандр Вегелін, якіх чакала цяпер "вольнае" пасяленне ў Сібіры. Кожнага з дзекабрыстаў высылалі ў розныя месцы, каб яны не маглі сустракацца.

Міхала Рукевіча выслалі на раку Лену -- у вёску Коркіна Іркуцкай губерні. Пра яго жыццё ў далёкай сібірскай ссылцы можа даць нейкае ўяўленне данясенне Верхняленскай валасной управы генерал-губернатару Усходняй Сібіры: "Михайло Рукевич имеет образ жизни, соответственный тамошним поселянам, нрава же и характера тихого и скромного. Занятие его состоит в чтении книг, а промышленность и все приобретения его заключаются из одного промысла рыбы в р.Лене, протекающей мимо Коркинского селения, и от сего единственно и имеет пропитание".

Там жа, у вёсцы Коркіна, Міхал Рукевіч ажаніўся з дачкой селяніна Івана . Ісакава Елізаветай, атрымаў зямельны надзел і заняўся гаспадаркай, гандлем, праявіўшы свае прадпрымальніцкія здольнасці. А калі стаў заможным гаспадаром, з"явіліся і зайздроснікі, якія пачалі пасылаць уладам на яго самыя розныя даносы, паклёпы, што шмат папсавалі працавітаму і кемліваму беларускаму ссыльнаму крыві.

Памёр філамат і дзекабрыст Міхал Рукевіч, зацкаваны паклёпнікамі, у верасні 1841 года, пакінуўшы пасля сябе ў Коркіне двое малых дзяцей.

Як літаратар Міхал Рукевіч вядомы толькі сваімі смелымі філамацкімі вершамі, асобныя з якіх апублікаваў у кнізе "Паэзія філаматаў" Ян Чубак, а таксама публіцыстычнымі выступленнямі той жа філамацкай пары. Пра яго магчымасці як паэта гаворыць яго верш "Гэй жа, брацця, філарэты", у які арганічна ўвайшла філамацкая песня, што публікавалася пад назвай "З Пагоняй нашай сцяг", дзе ёсць такія радкі:

**Дык калі паклічуць трубы**
**Нас у сонечны прасцяг,**
**Дружна ўздымем**
**вольналюбы**
**Мы з Пагоняй нашай сцяг!**

Але Міхал Рукевіч не лічыў літаратуру нечым галоўным у сваім жыцці, хоць і меў цягу да паэтычнай творчасці. На першым плане ён ставіў арганізацыю супраціўлення царскаму самаўладдзю, вызваленню ад яго роднай зямлі.

**Кастусь ЦВІРКА.**

**Заканчэнне. Пачатак у № 46.**

# ТАМУ ШТО ЛЯЛЬКА ЯК ЖЫВАЯ



...Ля прылаўка сталічнага магазіна "Падарункі" чатыры хлопчыкі выбіралі сувенір. Доўга раіліся, патрымалі мо з дзесятка цацак, нарэшце папрасілі прадаць ім ляльку "Дзед-Барадзед".

-- Чым жа яна вам спадабалася? -- цікаўлюся ў хлопчыкаў.

-- Дык дзед зусім як жывы, -- бясхітрасна адказвае адзін з іх, -- нібы з "Калыханкі".

І сапраўды: лапці, сялянская вопратка з вышыўкай, саламяны капялюш -- акурат такія, як некалі насіў у вёсцы мой дзед.

Праз некаторы час мне пашчасціла пабываць на Маладзечанскай фабрыцы мастацкіх вырабаў. Менавіта тут і "нарадзіўся" той "Дзед-Барадзед". Я сустрэўся з начальнікам планава-эканамічнага аддзела Аленай Гуд і папрасіў расказаць, як нараджаюцца такія прыгожыя цацкі.

-- Спачатку, -- кажа Алена Леанідаўна, -- давайце разбяромся, што такое "прыгожая цацка". На думку некаторых, гэта выраб, які размаляваны кідкімі малюнкамі і яркімі фарбамі. Гэта, на наш погляд, пустышка. Яна не нясе аніякага сэнсу, не мае накіраванасці. Хаця часам можа мець поспех на рынку, у гандлёвых кропках.

Мы ж ідзём іншым шляхам. Стараемся ў кожным вырабе, няхай у самым простым, нешта адлюстраваць. За аснову бяром сваё нацыянальнае, беларускае, прытрымліваемся традыцый, фальклору. Ды і пры вырабе карыстаемся сваім: лён, дрэва...

Расказ Алена Гуд прадоўжыла ў музеі фабрыкі. Брала ў рукі цацку, звяртала ўвагу на тую ці іншую дэталь: вышыты пасок, які некалі насілі нашы дзяды і прадзеды, распісаны арнаментам кіёчак у руках старога...

Цікаўлюся, на каго разлічаны гэтыя цацкі: ці толькі на дзяцей.

Алена Леанідаўна бярэ са стэнда новыя сувеніры і прапаноўвае даць ім назву. З языка так і злятаюць: "Іванка-зух" -- першы хлопец на вёсцы ліха іграе на балалайцы, "Пачатак кахання" -- сарамліва сядзяць побач, апусціўшы вочы долу, хлопец і дзяўчына, "Старасць -- не радасць" -- цяжка абапіраецца на кіёк дзядуля.

На першы погляд, стварыць такую цацку-сувенір даволі проста. Галоўнае, каб быў матэрыял. Але Алена Леанідаўна праводзіць па вытворчых участках, і мы бачым, як напружана працуюць работнікі фабрыкі Алена Тарлецкая, Леакадзія Пакладок, Соф'я Калачнік і іншыя, стараючыся падабраць лялечны ўбор, патрэбную стужку да спадніцы, касу з ільну для прыгажуні дзяўчыны. "Падбіраем усё гэтае ўбранне, -- расказваюць яны, -- і ўспамінаем нашу маладосць, нашых маці, бабуль. Для нас лялькі -- гэта наша мінулае, якое трэба адраджаць".

На фабрыцы выпускаюць пасцельную бялізну, абрусы, ручнікі. Можна было б усю гэтую вытворчасць паставіць на канвеер, механізаваць. Але, кажуць на прадпрыемстве, тады згубіцца самабытнасць, народныя традыцыі. Таму і працэс вырабу тут амаль што ручны. Асабліва пры вышыўцы. Тыя ж абрусы, напрыклад, карыстаюцца вялікім попытам.

Дарэчы, а куды ідзе прадукцыя Маладзечанскай фабрыкі мастацкіх вырабаў? Раней не было б вялікай памылкі сказаць: у многія рэспублікі Саюза. Цяпер "геаграфія" звузілася.

-- Але попыт на нашы вырабы, -- кажа Алена Гуд, -- даволі вялікі. Сувеніры мы пастаўляем ва ўсе куткі Рэспублікі Беларусь. На спартыўных спаборніцтвах, на кірмашах, сустрэчах дэлегацый самы жаданы прыз-сувенір -- нашы вырабы. Асабліва ж дарагім сувенірам лічацца нашы лялькі ў землякоў-беларусаў, тых, хто жыве далёка за межамі рэспублікі. Так што можна сказаць без перабольшання: нас ведаюць паўсюль.

Самой жа фабрыцы сёння зусім няпроста. Пакуль не хапае плошчаў, састарэлае абсталяванне на некаторых аперацыях патрабуе замены сучасным. Але на прадпрыемстве добра разумеюць, што ні грошы, ні абсталяванне не прыйдуць самі па сабе. Вось і стараюцца літаральна кожны зароблены рубель укласці ў справу, палепшыць умовы працы. У апошнія гады тут з'явіўся адміністрацыйны будынак, на



новыя плошчы з падвала пераведзены раскройны цэх, чакае сваёй чаргі і цэх сувеніраў, стане больш прывабнай і новая прахадная.

А яшчэ вось аб чым падумаў. Нехта сцвярджае: калі наша эканоміка працягвае каціцца ўніз, не да прыгожага, не да цацак. Пагадзіцца з гэтым ніяк нельга. Дзякуй Богу, што ёсць яшчэ такія прадпрыемствы, як Маладзечанская фабрыка мастацкіх вырабаў, якая не дае ў гэты цяжкі час адчуць яшчэ і духоўны голад.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: інжынер-тэхнолаг Таццяна ЦАРЭНКА ў фабрычным музеі; у раскройным цэху; майстар Валянціна БОХАН (злева) і мадэльер-канструктар Алена КАЛІНІНА дэманструюць новыя вырабы.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## "СТАЛОВАЯ" ДЛЯ ЗУБРОЎ

Мы ўжо паведамлялі, што вясной у Налібоцкую пушчу былі завезены 15 белавежскіх зуброў. Яны добра прыжыліся на новым месцы. Але з наступленнем халадоў значна паменшала для іх корму. Вось і вырашылі працаўнікі Налібоцкай лесагаспадаркі арганізаваць "сталовую" для зуброў, зрабіўшы загадзя нарыхтоўку кармоў на доўгую зіму.

## ШУКАЕ СЯБРОЎ

**Вітаўт ПАЗНЯКЕВІЧ** -- 15-гадовы юнак з Мінска шукае сяброў па перапісцы, хлопчыкаў і дзяўчынак, як у Беларусі, так і па-за яе межамі, якія шануюць родную мову, захапляюцца беларускімі песнямі і беларускім рокам. Любімыя рок-гурты "Мроя", "Крама", "Уліс", "Новае неба", "Палац". Пісаць на адрас: **Беларусь, 220101, Мінск, праспект Ракасоўскага, д. 170, кв. 349. Пазнякевічу Вітаўту.**

Марцін КОЎЗСКІ

## САТЫРЫЧНЫЯ МІНІЯЦЮРЫ

**Многія хацелі б уваскрэснуць, ды не ўсе гатовы дзеля гэтага памерці.**

**Мыш, калі трызніць славай, бачыць не катоў, а тыграў, што палююць на мышэй.**

**Мы багатыя: патрэбны разумныя -- знаходзяцца мысліцелі, філосафы, геніі, патрэбны дурні -- знаходзяцца ёлупні, ідыёты, крэціны. Ёсць выбар!**

**Мяркуеце, звера выдрэсіравалі! Гэта дрэсіроўшчык прыстасаваўся да яго.**

**Наш каляндар: сёння ў бібліёграфаў чорны дзень: ніхто з славутасцей не памёр і не нарадзіўся.**

**Надпісы: на дузе -- "Хто гнецца, той не круціцца", на коле -- "Хто круціцца, той не гнецца".**

**Нават хлусня ў мемуарах праўдзіва расказвае пра час... калі яны пісаліся.**

**Насаджваў фігавыя лісткі, пажынаў лаўры.**

**Нашы веды растуць з дня ў дзень: няма межаў чалавечаму невуцтву.**

**Некаторыя лічаць сваёй столлю дах над галавой.**

**Нёс адказнасць, як курыца яйкі, -- з кудахтаннем.**

**Нішто не будуюць так фундаментальна, як паветраныя замкі.**

**Няма больш устойлівых, чым уседлівыя.**

**Небяспечныя не тыя, што ведаюць усё, а тыя, што ведаюць нешта, -- выдумляюць, галоўным чынам, яны.**

*СПОРТ*

## КАБ ЖА ТАК І Ў ЛЮТЫМ...

У лютым наступнага года мінскі гросмайстар Барыс Гельфанд сустрэнецца з расіянінам Анатолем Карпавым у паўфінальным матчы першынства свету па шахматах.

А пакуль саперніі ўдзельнічаюць у розных міжнародных турнірах. У адным з іх, які прайшоў у Францыі, яны сустрэліся ў фінале. Барыс Гельфанд змог перамагчы шматразовага чэмпіёна свету, выйграўшы ў дзвюх бліцпартыях.

## ХУТЧЭЙ ЗА МУЖЧЫН

На Нью-Йоркскім міжнародным марафоне беларуская лёгкаатлетка Мадзіна Біктагірава фінішавала другой, уступіўшы толькі кенійскай спартсменцы Тэкле Ларупе.

Цікава адзначыць, што жанчыны-прызёры паказалі час, лепшы за вынікі многіх мужчын, якія таксама ўдзельнічалі ў аналагічным прабегу ў Нью-Йорку.

## НЕМІЛАСЭРНАЕ ЖЭРАБЯ

Неміласэрнай да зборнай Беларусі аказалася жараб'ёўка каманд, што будуць удзельнічаць у папярэднім турніры першынства свету па гандболу. Нашы земляні трапілі ў групу "Д", дзе будуць гуляць спартсмены Швецыі, Іспаніі, Бразіліі, Егіпта і трэці прызёр Азіяцкіх гульняў (вызначыцца пазней). Амаль усе названыя каманды займалі самыя высокія месцы ў першынствах планеты і на міжнародных турнірах.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 47. Падпісана да друку 21. 11.1994 г.